● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1000 рублёў

21 снежня 1996 г. субота, № 295 (23098)




# ЗВЯЗДА

## ПАДТРЫМЛІВАЮЧЫ ТАЛЕНАВІТУЮ МОЛАДЗЬ, ДЗЯРЖАВА КЛАПОЦІЦЦА АБ СВАЁЙ БУДУЧЫНІ



Аляксандр Лукашэнка 20 снежня ўручыў пасведчанні першым 45 стыпендыятам спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па сацыяльнай падтрымцы здольных навучэнцаў і студэнтаў. Імі сталі лепшыя студэнты ВНУ сталіцы, Гомеля, Магілёва, Брэста, Мазыра і іншых гарадоў рэспублікі.

Віншуючы першых стыпендыятаў фонду, Аляксандр Лукашэнка адзначыў, што дзяржава і ў далейшым будзе падтрымліваць таленавітую моладзь, бо яна з'яўляецца патэнцыяльнай элітай нацыі. У 1996 годзе фонду выдзелена больш за 210 мільёнаў рублёў.

Як заўважыў Аляксандр Лукашэнка, «усе, хто сёння з'яўляецца стыпендыятамі спецыяльнага фонду Прэзідэнта рэспублікі, ужо трапіць у адпаведны кадастр кіраўніка дзяржавы». Нашай краіне, падкрэсліў Прэзідэнт, неабходны таленавітыя кадры. Цяпер эканоміка Беларусі перажывае перыяд рэфарміравання, а без сучасных ведаў ажыццявіць усе пераўтварэнні немагчыма. Ужо распрацавана канцэпцыя далейшага развіцця навукі, якая была прадстаўлена кіраўніку дзяржавы Акадэміяй навук рэспублікі і Мінадукацыяй. У бліжэйшы час яна будзе дапрацавана, і галоўныя напрамкі развіцця навукі стануць больш дакладнымі і поўнымі.

Стыпендыяты падзякавалі кіраўніку дзяржавы і савету спецыяльнага фонду Прэзідэнта краіны за ўвагу і клопаты, а на памяць аб сустрэчы Аляксандр Лукашэнка і ўсе яе ўдзельнікі сфатаграфаваліся.

**Вольга ШЧАДРЫНА, БЕЛТА.**

## БЕЛАРУСЬ — РУМЫНІЯ: СУПРАЦОЎНІЦТВА ПАШЫРАЕЦЦА

**Старшыня Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Анатоль Малафееў прыняў Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Румыніі ў Рэспубліцы Беларусь Нікалае Стыню, які завяршае сваю дыпламатычную місію ў нашай краіне.**

Румынскі пасол павіншаваў Анатоля Малафеева з выбраннем на пасаду Старшыні Палаты прадстаўнікоў і пажадаў плённай работы. На сустрэчы абмеркаваны пытанні развіцця двухбаковых адносінаў і асаблівa міжпарламенцкіх сувязей.

Н.Стыня адзначыў, што Беларусь стала першай з дзяржаў былога СССР, з кім Румынія падпісала шырокамаштабны Дагавор аб дружбе і супрацоўніцтве. Пасол праінфармаваў аб выніках нядаўніх прэзідэнцкіх і парламенцкіх выбараў у яго краіне, падкрэсліўшы пры гэтым, што працэс палітычных і эканамічных рэформаў у Румыніі будзе прадоўжаны.

Анатоль Малафееў расказаў румынскаму паслу аб першых днях работы Палаты прадстаўнікоў. Ён выказаў упэўненасць, што супрацоўніцтва паміж парламентамі Беларусі і Румыніі будзе паглыбляцца. Старшыня Палаты прадстаўнікоў падзякаваў Нікалае Стыні за яго работу ў Беларусі і ўклад у развіццё дружбы паміж беларускім і румынскім народамі.

**БЕЛТА.**

## АДНЫМ СКАЗАМ

Лічба ў 1000 чалавек, якія **ўхіляюцца ад службы** ў арміі, стабільная і не мяняецца на працягу апошніх гадоў.

Паводле даных Сусветнай арганізацыі аховы здароўя, **да 60 гадоў** дажываюць толькі 60 працэнтаў тоўстых людзей, **да 70 гадоў** — толькі 30, а **да 80** — усяго 10 працэнтаў.

**Агульная плошча жылля,** якое належыць грамадзянам на праве ўласнасці, павялічылася ў 1995 годзе ў параўнанні з 1991 годам у Беларусі ў 3 разы, на Украіне — у 4 разы, у Расіі — у 12 разоў.

Павелічэнне на 2,5 сантыметра **акружнасці таліі** каштуе чалавеку двух гадоў жыцця.

У аўтамабілістаў **маса цела** ў сярэднім на 6 кілаграмаў вышэй, чым у пешаходаў.

## НАВАГОДНЯЕ СВЯТА ПРАДОЎЖАНА НА АДЗІН ДЗЕНЬ

Рабочы дзень 3 чацвярга, 2 студзеня, перанесены на суботу, 11 студзеня. Такое рашэнне прыняў урад Беларусі. А гэта значыць, што Новы год можна будзе святкаваць не адзін, а два дні.

**БЕЛТА.**

*ПАРЛАМЕНЦКІ ДЗЁННІК*

# УРАД ПАПЯРЭДЖВАЕ...

**Учора быў заключны дзень першай сесіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі. Дэпутаты прынялі рашэнне сабрацца на наступным пасяджэнні 9 студзеня і папрасілі Прэзідэнта выдаць адпаведны ўказ. Яны зацвердзілі папярэдне і парадак дня другой нечарговай сесіі.**

Акрамя таго, 20 снежня ніжняя палата прыняла шэраг законапраектаў і ўнесла папраўкі ў раней шыя. Гэта змяненні ў Закон «Аб страхаванні», Закон «Аб дзяржаўнай статыстыцы» і некаторыя іншыя. Да таго ж была заслухана справаздача Юрыя Малумава, які вярнуўся з Лондана, дзе прысутнічаў на пасяджэнні Палітычнага камітэта Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы. Разам з Ю. Малумавым у сталіцы Вялікабрытаніі знаходзіўся і Пятро Краўчанка. Паводле інфармацыі старшыні Камісіі па заканадаўству Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу, сітуацыя ў Беларусі разглядалася асобным пытаннем. Члены Палітычнага камітэта па-рознаму яе ацэньвалі. У выніку камітэт паўстаў перад дылемай: пазбавіць Беларусь спецыяльнага статусу ў ПАСЕ ці толькі часова яго прыпыніць. І Ю. Малумаў і П. Краўчанка выказаліся супраць таго, каб з нашай краінай былі парваны адносіны. Але калі першы настойваў на тым, каб інтарэсы Беларусі ў ПАСЕ прадстаўляла навабраная дэлегацыя з саставу дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў, то Пятро Краўчанка выказваўся, каб былі захаваны ранейшы састаў дэлегацыі, дзе, як вядома, прадстаўлены і дэпутаты Вярхоўнага Савета, што не перайшлі ў Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу. У выніку Палітычны камітэт вырашыў прыпыніць спецыяльнае членства Беларусі ў ПАСЕ. Канчаткова лёс нашага прадстаўніцтва вырашыцца, хутчэй за ўсё, 27 студзеня на пасяджэнні Бюро Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы.

Але, мабыць, галоўнай падзеяй учарашняга дня пасяджэння сесіі было выступленне выконваючага абавязкі прэм'ер-міністра Сяргея Лінга, звязанае з абмеркаваннем праекта бюджэту на будучы год. Сяргей Сцяпанавіч не толькі пазнаёміў дэпутатаў з лічбамі, запланаванымі на 1997 бюджэтны год, але і падрабязна прааналізаваў паказчыкі выканання бюджэту ў гэтым годзе і ўвогуле спыніўся на сённяшнім стане беларускай эканомікі. Паводле яго слоў, сёння запазычанасць па заработнай плаце складае 355 млрд. рублёў, ці каля 9 працэнтаў ФЗП. Гэты паказчык выклікае сур'ёзную занепакоенасць ва ўрадзе. Абвастрылася сітуацыя і ў знешнеэканамічнай дзейнасці. Нягледзячы на тое, што адбываецца рост тавараабароту, прырост імпарту амаль у два разы пераўвышае прырост экспарту. Такім чынам створаны дэфіцыт гандлёвага сальда ў памеры 1.200 млн. долараў за 11 месяцаў. Адсутнасць валютнай выручкі, якая вынікае з такой сітуацыі, напрамую адбіваецца на своечасовасці аплаты за энерганосьбіты, што пастаўляюцца ў краіну. Сёння запазычанасць Беларусі Расіі толькі за год складае 207 млн. долараў. Існуе пастаянная пагроза скарачэння паставак.

Зыходзячы з гэтага, урад бачыць асноўную задачу ў татальнай эканоміі матэрыяльных рэсурсаў як на вытворчасці, так і ў кожнай сям'і. Пад знакам эканоміі, шчэ да ўсім, пройдзе ўвесь наступны год, пад гэтым знакам фарміраваўся і праект бюджэту-97. Так, мяркуецца, што ў параўнанні з 1996 годам валавы ўнутраны прадукт вырасце на 5 працэнтаў. Гэта будзе дасягацца, у прыватнасці, за кошт росту інвестыцый на 10 працэнтаў. Дарэчы, Сяргей Лінг адзначыў будучы год як пераломны ў сферы інвесціравання.

Урад прапануе зменшыць падатковы прэс з 37,5 працэнта да 33,7 працэнта. У прыватнасці, прадугледжваецца зніжэнне надзвычайнага падатку з 10 да 7 працэнтаў, адмена збору на ўтрыманне пажарнай службы, а таксама змяншэнне некаторых відаў акцызаў. Акрамя таго, адмяняецца фонд падтрымкі экспарцёраў, зніжаны памеры іншых пазабюджэтных фондаў. Асобным накірункам С. Лінг назваў неабходнасць павышэння збіральнасці падаткаў. Так, у гэтым годзе нядоімка ў бюджэт склала фантастычную лічбу, у цэлым даходны артыкул выкананы на 84—85 працэнтаў. «Урад зробіць усё магчымае, каб грошы «выкалаціць» з тых, хто павінен плаціць», — зазначыў выконваючы абавязкі прэм'ер-міністра.

У цэлым мяркуецца, што даходы кансалідаванага бюджэту складуць 60 трлн. рублёў, а дэфіцыт будзе ўстаноўлены ў памеры 3,3 працэнта. У заключэнне С. Лінг звярнуўся да дэпутатаў з просьбай дазволіць Прэзідэнту ўносіць змяненні ў даходныя і расходныя часткі бюджэту. Карыстаючыся магчымасцю, некаторыя члены Палаты прадстаўнікоў змаглі задаць С. Лінгу пытанні. Такім чынам, можна сказаць, што абмеркаванне бюджэту ўжо пачалося. Наколькі пагодзіцца парламент з прапанаваемі ўрада, пакажа час.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

*ЦЭНЫ*

## «САЛОДКАЕ ЖЫЦЦЁ» ПА НОВАЙ ЦАНЕ

**Як ужо паведамлялася, напрыканцы года цукровыя прадпрыемствы Беларусі павялічылі цану на сваю прадукцыю.**

Па звестках, атрыманых у прэс-службе Міністэрства гандлю, адпускная цана на цукар узрасла з 7800 да 8300 рублёў за кілаграм. Мінімальны рознічны кошт салодкай прадукцыі вагаецца зараз у дзяржгандлі ў залежнасці ад рэгіёна ад 9100 рублёў (Мінск) да 10.100 рублёў за кілаграм (Гомель, Магілёў). У камерсантаў жа цана цукру ўжо наблізілася да 13 тысяч рублёў. Падаражанні і ў першым і ў другім выпадку тлумачаца пастаянным ростам курса долара, з-за чаго павялічваюцца выдаткі на вытворчасць, якія неабходна кампенсаваць.

Адбылося і «доўгачаканае» павелічэнне кошту цыгарэт айчыннай вытворчасці: Гродзенская тытунёвая фабрыка «Нёман» крыху ўзняла адпускныя цэны. Напрыклад, у асобных гарадах пачак «Астры» ў дзяржгандлі падаражэў з 2000 да 2400 рублёў. Зрэшты, нават такая мера (і гэта пацвердзілі ў Міністэрстве гандлю) наўрад ці зможа выратаваць становішча. Не сакрэт, што магутнасцей «Нёмана» не хапае, каб задаволіць патрэбы краіны ў цыгарэтах па любой цане. У сувязі з гэтым, а таксама з мэтай пашырэння асартыменту, стварэння канкурэнцыі паміж магчымымі пастаўшчыкамі і, адпаведна, зніжэння цэн, Міністэрства гандлю сумесна з Міністэрствам знешнеэканамічных сувязей аб'явілі конкурс на права ўвозу ў Беларусь тытунёвых вырабаў. Як вядома, зараз пастаўкамі цыгарэт у краіну займаюцца толькі пяць фірмаў, якія ўвозяць пераважна дарагія гатункі цыгарэт. Спецыялісты лічаць, што з павелічэннем колькасці пастаўшчыкоў асартымент «паліва» для курцоў пашырыцца прадукцыяй з абсягаў усяго СНД.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## АБ СЯРЭДНЯМЕСЯЧНАЙ ЗАРАБОТНАЙ ПЛАЦЕ РАБОЧЫХ І СЛУЖАЧЫХ

Мінстат Рэспублікі Беларусь паведамляе, што сярэдняя налічаная заработная плата рабочых і служачых у лістападзе 1996 года склала 1.394.649 рублёў (у кастрычніку была 1.460.028 рублёў). У студзені—лістападзе 1996 года яна склала 1.251.183 рублі і павялічылася ў параўнанні з'адпаведным перыядам мінулага года ў 1,6 раза.

**Міністэрства статыстыкі і аналізу Рэспублікі Беларусь.**

## СНЕГАПАДЫ І ПРАБЛЕМЫ ВАКОЛ ІХ

**Як паведамілі карэспандэнту «Звязды» ў Белгідрамеце, у наступныя некалькі сутак на тэрыторыі Беларусі ўстановіцца халоднае надвор'е — чакаецца паніжэнне тэмпературы паветра ўначы да мінус 10—15 градусаў, месцамі да мінус 18. Снегапады прыпыняцца, да канца тыдня ападкаў не прадбачыцца. Вецер — пераважна паўночна-заходняга напрамку, моцны. Больш перспектыўных прагнозаў у сувязі са зменлівым надвор'ем пакуль не даецца.**

**Службы ачысткі**

Пясчана-салевай сумесі падрыхтавана неабходная колькасць (у Мінску нават з перавышэннем нарматыўных паказчыкаў — адбіваецца мінулагодняе надвор'е і ўсе праблемы, што з ім звязаны). У Гродзенскай і Магілёўскай абласцях, праўда, існуюць пэўныя цяжкасці — там сродкаў для пасыпання вуліц зараз у наяўнасці крыху менш, чым патрэбна. Што датычыцца тэхнічнага боку ачысткі, то, як паведамілі ў аддзеле камунальнай гаспадаркі Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі, парк увогуле ўкамплектаваны.

Увогуле сітуацыя з ачысткай гарадоў поўнасцю знаходзіцца пад кантролем адпаведных службаў. Выпрабаванне першымі снегападамі яны вытрымалі. Як яно будзе далей — пакуль сказаць цяжка, бо напярэдзе ж амаль уся зіма. А сур'ёзных аварый пакуль, на шчасце, не было.

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

## ПРЭЗІДЭНТ ЗАПАТРАБАВАЎ ЛІКВІДАВАЦЬ ПЕРАБОІ Ў ГАНДЛІ

Атрымаўшы інфармацыю аб перабоях у гандлі асобнымі відамі харчовых тавараў, Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка 20 снежня прыняў аператыўныя меры па вырашэнні гэтай праблемы. Як паведаміла прэс-служба кіраўніка дзяржавы, ён заслухаў справаздачы віцэ-прэм'ера Уладзіміра Гаркуна і старшыні Мінскага гарвыканкома Уладзіміра Ярмошына, запатрабаваўшы ад іх у самы сціслы тэрмін зрабіць усё неабходнае для задавальнення попыту насельніцтва краіны і асабліва жыхароў сталіцы на малочныя прадукты.

Аляксандр Лукашэнка звярнуў увагу кіраўнікоў на неабходнасць паляпшэння перадсвяточнага гандлю, у тым ліку віна-гарэлачнымі вырабамі. Міністру гандлю дадзена ўказанне пераарыентаваць пастаўкі шампанскага такім чынам, каб у першую чаргу поўнасцю забяспечыць унутраны рынак.

Кіраўнік дзяржавы даручыў ураду, мясцовым органам улады прыняць меры да неадкладнага і эфектыўнага вырашэння пытанняў гандлю, падкрэсліўшы, што, у выпадку невыканання гэтых патрабаванняў, вінаватыя будуць несці персанальную адказнасць.

Інфармацыю кіраўніцкага ўрада, адпаведных міністэрстваў і ведамстваў аб выкананні гэтага даручэння Прэзідэнт краіны заслухае ў канцы снежня гэга года.

**БЕЛТА.**



КРЫНІЧАНЬКА. Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.

*АФІЦЫЯЛЬНА*

## НОВЫЯ ЎКАЗЫ ПРЭЗІДЭНТА

Прафесар кафедры тэорыі і гісторыі дзяржавы і права Беларускага дзяржаўнага універсітэта Сцяпан Драбязка за вялікі асабісты ўклад у распрацоўку заканадаўчых актаў, падрыхтоўку высокакваліфікаваных юрыдычных кадраў удастоены ганаровага звання «Заслужаны юрыст Рэспублікі Беларусь». Указ аб гэтым прыняў Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка.

* * *

Медалём «За адвагу» пасмяротна ўзнагароджаны сяржант Анатоль Бурлак — міліцыянер-кінолаг Навабеліцкага (г.Гомель) раённага аддзела аб'яднання «Ахова» пры Міністэрстве ўнутраных спраў. Як гаворыцца ва ўказе Прэзідэнта краіны, ён удастоены гэтай узнагароды за мужнасць, праяўленую пры затрыманні небяспечнага злачынцы.

* * *

Васіль Саковіч вызвалены ад пасады старшыні Кантрольнай палаты Рэспублікі Беларусь у сувязі з ліквідацыяй названага ведамства. Указ аб гэтым прыняў Прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка.

**БЕЛТА.**

## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

*№ 557*

**Аб устанаўленні святочнага дня — Дня супрацоўніка органаў дзяржаўнай бяспекі**

Устанавіць у Рэспубліцы Беларусь святочны дзень — Дзень супрацоўніка органаў дзяржаўнай бяспекі, які не з'яўляецца выхадным днём, і штогод адзначаць яго 20 снежня.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

*19 снежня 1996 г., г. Мінск.*

## Вада спыніла рух на праспекце амаль на 12 гадзін

**У чацвер мінчане, якія ўвечары праязджалі праз праспект Дзяржынскага, сутыкнуліся з нечаканай перашкодай — рух на праспекце быў перакрыты.**

Як стала вядома карэспандэнту «Звязды», 19 снежня ў 18 гадзін 20 хвілін пад праезнай часткай праспекта Дзяржынскага, 10, насупраць Маскоўскага райвыканкома, лопнула 900-міліметровая вадаводная труба. Магутны паток вады фантанам забіў уверх. Аварыйным брыгадам вытворчага аб'яднання «Мінскводаканал» удалося ліквідаваць прарыў даволі хутка. Вада была перакрыта, аднак да 21 гадзіны ўжо толькі два жылыя дамы ў раёне аварыі заставаліся без вады, астатнія былі пераключаны на суседнюю водаправодную трасу.

Рух на праспекце быў перакрыты і аднавіўся толькі ў 5 гадзін раніцы.

**Сяргей ПРОТАС.**

## Ад інфармацыйнай самастойнасці — да інфармацыйнай інтэграцыі

**Упершыню за пяць гадоў існавання СНД па ініцыятыве Беларусі ў Мінску сабраліся кіраўнікі дзяржаўных органаў па друку краін—удзельніц СНД. Мэты нарады — абмеркаваць праблемы, якіх накапілася нямала, вырашыць пытанні інфармацыйнай інтэграцыі, наладзіць кантакты і, галоўнае, перазнаёміцца, можна сказаць, дасягнуты.**

Сярод рэальных вынікаў нарады — падпісанне мемарандума з прапановамі і пажаданнямі ўдзельнікаў, у якім выказана аднадушнае імкненне да больш шчыльных кантактаў між нацыянальнымі органамі дзяржаўнага кіравання ў галіне друку і інфармацыі.

Важным вынікам з'явілася прапанова, унесеная кіраўніком Дзяржкамдруку Беларусі Уладзімірам Бельскім, аб стварэнні Міждзяржаўнай нарады па супрацоўніцтву дзяржаў—удзельніц СНД, галоўная задача якой — аб'яднанне намаганняў па хутчэйшай распрацоўцы і практычнаму ажыццяўленню ўзгодненых мераў па ўзаемавыгаднаму і раўнапраўнаму распаўсюджванню друкаванай прадукцыі ў дзяржавах СНД і іншых краінах. Ідэя гэтая была аднагалосна прынята ўдзельнікамі нарады і высока ацэнена Прэзідэнтам РБ Аляксандрам Лукашэнкам, які сказаў, што «варта пераходзіць ад інфармацыйнай самастойнасці да інфармацыйнай інтэграцыі».

**Яна САВІЦКАЯ.**

*ПРАЦЯГ СКАНДАЛУ*

# «Сенсэй» сабраўся паміраць

**Некалькі тысяч кліентаў сістэмы «Сэкай», якія на працягу амаль года не могуць вярнуць свае грошы, з трывогай чакаюць 27 снежня.**

Справа ў тым, што кіраўнік «Сэкай» Валерый Буяк ( ён жа свяшчэннік японскай рэлігійнай абшчыны на Беларусі Бумату Мататацы), які ўжо паўгода знаходзіцца ў следчым ізалятары (СІЗО) Мінска, менавіта на 27 снежня прызначыў дату... сваёй смерці. Нагадаем, што супраць «сенсэя» Буяка, які, абяцаючы выгадныя дывідэнды, сабраў, пераважна ў пенсіянераў, больш за 500 тысяч долараў і не вярнуў, летам мінулага года была ўзбуджана крымінальная справа. На працягу шасці месяцаў следства спрабуе высветліць месцазнаходжанне грошай падмануных кліентаў «Сэкай» і вярнуць абрабаваным людзям іх зберажэнні. Аднак Валерый Буяк пакуль не дапамог праваахоўным органам аднавіць справядлівасць у дачыненні да падманутых кліентаў «Сэкай». Спадар Буяк лічыць, што яго ўтрымліваюць за кратамі несправядліва і таму піша скаргі і звароты ў розныя дзяржаўныя інстанцыі, а таксама заклікае змагацца за яго («сенсэя») вызваленне. Апошняй акцыяй Валерыя Буяка за кратамі стала аб'яўленая 5 снежня галадоўка пратэсту супраць утрымання за кратамі.

Праўда, жаданае вызваленне да Валерыя Буяка зноў жа пакуль не прыйшло і, мяркуючы па ўсім, прыйдзе не хутка. Па звестках «Звязды», 18 снежня першым намеснікам Генеральнага пракурора краіны Уладзімірам Кандрацьевым тэрмін утрымання Валерыя Буяка пад вартай быў прадоўжаны да канца чэрвеня наступнага года. Таму, як тапелец за саломінку, «сенсэй» ухапіўся за апошнюю надзею вызваліцца са следчага ізалятара. Па інфармацыі «Звязды», атрыманай у кампетэнтных органах, спадар Буяк заявіў, што калі яго не выпусцяць на волю да 27 снежня гэтага года, то ў гэты дзень ён памрэ. Згаданая дата выбрана «сенсэем» не выпадкова, бо менавіта 27 снежня заканчваецца тэрмін утрымання Валерыя Буяка пад вартай. Але, як ужо адзначалася, тэрмін арышту прадоўжаны яшчэ на 6 месяцаў.

Так што кліентам «Сэкай» давядзецца панервавацца ў чаканні азначанай даты, бо са смерцю «сенсэя» надзеі на вяртанне грошай амаль знікнуць, паколькі фармальна не будзе падстаў да каго-небудзь апеляваць.

Зрэшты, хутчэй за ўсё, наўрад ці 27 снежня Валерый Буяк адыдзе ў іншы свет. А яго патэтычныя прызначэнні даты ўласнай смерці, відавочна, не больш як «гульня» на следства і падманутых кліентаў «Сэкай».

Дарэчы, аб тым, што Валерый Буяк не збіраецца паміраць, а мае «грандыёзныя планы на будучае», сведчыць і ягоны ліст да Прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі. У сваім пасланні «сенсэй» павіншаваў Аляксандра Лукашэнку з перамогай на рэферэндуме, а таксама прапанаваў свае паслугі па выводу Беларусі з эканамічнага крызісу. У лісце Валерыя Буяка Аляксандру Лукашэнку, у прыватнасці, гаворыцца: «З маёй дапамогай Беларусь можна было б пераўтварыць у плацдарм японскай і кітайскай эканамічнай экспансіі. Я, як спецыяліст па Японіі, гатовы бясплатна стаць членам савета па эканамічнай рэформе (такі савет варта было б заснаваць)».

Але і гэтая «ініцыятыва» не дапамагла Валерыю Буяку выблытацца з крымінальнай гісторыі. І следчыя, і высокапастаўленыя службовыя асобы краіны, пэўна, добра ўсвядомілі памылкі звышдаверлівых кліентаў «Сэкай». Між іншым, некаторыя з іх нават пасля ўсяго, што здарылася, не страцілі веру ў свайго «сенсэя» і праводзяць пікеты з патрабаваннем вызваліць іх куміра з-за кратаў.

Пэўна, усё-ткі няма мяжы даверлівасці нашага народа.

**Мікола ДЗЯБЁЛА.**

*«ГАРАЧЫЯ» ТЭЛЕФОНЫ «ЗВЯЗДЫ»: 268-28-72 і 268-27-51*

# Куды плыве «карабель» мінскага арэнднага прадпрыемства ДБ ВМК-99?

**Учора да нас на «гарачую» лінію патэлефанавалі працоўныя мінскага арэнднага прадпрыемства дарожна-будаўнічай вытворчасці механізаванай калоны № 99 і паскардзіліся на тое, што ўжо два месяцы ім не выдаюць заробак. На пастаянныя пытанні наконт вялікага тэрміну запазычанасці начальства быццам бы тлумачыць такое становішча адсутнасцю сродкаў. «А мы ж ведаем, што і два «МАЗы» прадпрыемства закупіла, — чуліся абураныя галасы ў тэлефоннай трубцы — а, паводле некаторых даных, за кошт нявыплаты заробку набываюць некалькі «легкавушак...»**

Каб удакладніць сапраўднае становішча, звязваюся з прыёмкай начальніка АП ДБ ВМК-99. Аказваецца, як запэўнілі на другім канцы провада, яго да канца дня ўвогуле не будзе. Прааналізаваўшы сітуацыю, вырашаю выехаць на месца «здарэння» і нечакана сустракаю там... начальніка — Анатоля Ляхоўскага. Выслухаўшы ўсе мае пытанні, ён пачаў расказваць пра жыццё свайго прадпрыемства. «Гаварыць, што замест выплаты заробку мы набываем «МАЗы», — зазначыў Анатоль Васільевіч, — могуць толькі недасведчаныя людзі. У нас жа пастаянныя праверкі адбываюцца». Па словах начальніка, установа знаходзіцца зараз у вельмі складаных умовах існавання, балансуючы на мяжы банкруцтва. Доўг па падатковых адлічэннях з прадпрыемства роўны 2,4 мільярда рублёў, ім жа завінаваціліся самыя розныя кліенты (сярод якіх той жа «МАЗ») ажно 3 мільярды. Такім чынам, па паперах баланс атрымліваецца дадатны, але ж у рэальнасці гэтых прыбыткаў не існуе.

Каб зберагчы кадры ад звальнення, як запэўніў начальнік, з пачатку наступнага года ўсе пойдуць на месяц у адпачынак (пакуль неаплатны). «А што ж рабіць, — казаў Ляхоўскі, — заказаў зараз няшмат, абаротных сродкаў таксама кот наплакаў. У такіх умовах і хацелася б усё кінуць, але ж дарожнае будаўніцтва проста павінна існаваць. Што ж я звольню 100 чалавек, а хто будзе на машынах працаваць (парк жа вялікі)?..»

З гэтымі доказамі можна пагадзіцца, як можна пагадзіцца і з законнымі патрабаваннямі працоўных аб своечасовай выплаце зробленых імі грошай. Трэба разумець, што ДС ПМК-99, наколькі вядома, працуе зараз толькі на 15 працэнтах сваёй агульнай магутнасці. Атрымліваецца як у анекдоце пра тое, як канцлер Коль, выслухаўшы двух міністраў — прамысловасці і працы (адзін прапаноўваў змяншэнне памеру заработнай платы, другі — павелічэнне, прычым кожны са сваімі слушнымі довадамі), пагадзіўся з імі і кожнаму паабяцаў дапамогу. Здзіўлены памочнік, які прысутнічаў на абедзвюх сустрэчах, заўважыў, што нельга адразу пагаджацца з такімі супярэчлівымі просьбамі. На што Коль заўважыў: «Ведаеш, а я і з табою згодны».

Так і ў апісаным вышэй выпадку: зразумела, што кепска сядзець зараз на 630 тысячах, якія працоўным усё ж паабяцалі выплаціць. Але ж неабходна бачыць і рэальнае становішча, а яно даволі бязрадаснае. Нават, больш таго, нягледзячы на аптымізм кіраўніцтва ДБ ПМК-99, амаль бесперспектыўнае.

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

***Паважаныя чытачы, тэлефануйце. Наша «гарачая» лінія працуе кожны рабочы дзень з 10 да 13 гадзін.***

# Даплата да пенсіі: атрымаў і не заўважыў

**Нарэшце адбылося! Учора маім бацькам-пенсіянерам прынеслі доўгачаканую даплату да пенсіі, пра якую было сказана так многа слоў: мама атрымала 47 тысяч, бацька яшчэ менш — 42 тысячы рублёў.**

Убачыўшы такую смехатворную суму, маці паспачувала паштальёну: «Чаго вы ў такую мяцеліцу ішлі? Мы б пачакалі і да раніцы...» — «Што вы, — адказала жанчына, — многія старыя радуюцца і гэтым крыхам, хоць некаторым я прыношу даплаты па 5—10 тысяч рублёў. Ды вось хоць бы ваша суседка: прынесла 28 тысяч рублёў ёй у дапамогу».

Спакойна пра такую «дзяржаўную» дапамогу я асабіста гаварыць не магу. Да якой жа ступені беднасці трэба дайсці нашаму народу, каб ён радаваўся такім капейкам? Што на іх можна купіць? Дзесятак яек ды бутэлечку валяр'янкі? Нават на валакардзін такіх грошай не хапае... Ведаю па ўласнай бабулі: палова пенсіі ў яе застаецца ў аптэцы. Вось і просяць старыя падабраць ім таннае лякарства.

А калі хто-небудзь захоча даведацца, дзе ў горадзе самыя танныя яйкі ці, скажам, алей, няхай спытаецца ў пенсіянера. Зусім не з цікаўнасці абследуюць яны магазіны: недзе на розніцы ў цэнах удаецца зэканоміць 200—400 рублёў, а калі пашанцуе — дык і некалькі тысяч. Цяпер з продажу зніклі тварог і смятана — практычна адзіная даступная ежа для старых. А на мяса грошай, ім, бадай, не хопіць.

Але і гэта яшчэ не ўсё: на чарзе павышэнне кватрплаты. Ці вытрымаюць і гэты ўдар старыя?

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

*ВАКОЛ СПОРТУ*

### ВОСЬ ГЭТА «ЗАПЛЫЎ»!

**Як стала вядома з дакладна інфармаваных крыніц, беларуская алімпійская чэмпіёнка з Гомеля Алена Рудкоўская зараз знаходзіцца ў Эквадоры.**

Нагадаем, што знікла спартсменка разам са сваім трэнерам вельмі таямніча, і спартыўная грамадскасць да гэтага часу толькі ў неўразуменні разводзіць рукамі: куды? чаму? Па нашай інфармацыі, Алена працуе трэнерам, падпісаўшы кантракт на адзін год.

— Мы ведалі, што Рудкоўская з'ехала недзе ў Паўднёвую Амерыку, аднак пра Эквадор даведаліся ад вас упершыню, — пракаменціраваў факт намеснік міністра спорту і турызму Беларусі Аляксандр Грыгараў. — Безумоўна, шкада, калі лепшыя спецыялісты едуць за мяжу, аднак сілком утрымліваць спартсменку ніхто не збіраўся. Мы прапаноўвалі Лене тры месяцы работы: у аспірантуры, старэйшым трэнерам у Гомельскай вобласці і ў школе вышэйшага спартыўнага майстэрства, на што Рудкоўская адказала: «Прабачце, але ў мяне ёсць больш цікавая камерцыйная прапанова». Калі не, дык і не.

### АЛЯКСАНДР КУРЛОВІЧ «ГУЛЯЮЧЫМ ТРЭНЕРАМ» НЕ БУДЗЕ

**Як і прадказвала «Звязда», пазаўчора вядомы беларускі цяжкаатлет Аляксандр Курловіч афіцыяльна зацверджаны галоўным трэнерам нашай зборнай штангістаў.**

Умову, якую паставілі перад Аляксандрам, — не ганяцца за двума зайцамі, г. зн. не выступаць больш на спаборніцтвах, а займацца толькі трэніровачным працэсам, той прыняў. Цяпер — за працу.

### 5 МІЛЬЁНАЎ ДОЛАРАЎ ЗА «ЖЫЦЦЁ Ў КЛЕТАЧКУ»

**Прэзідэнт Міжнароднай федэрацыі шахмат Кірсан Ілюмжынаў аб'явіў тэрмін правядзення чарговага шахматнага першынства свету.**

Ён пройдзе ў Элісце (сталіцы Калмыкіі) з 16 снежня 1997 года па 9 студзеня 1998 года. Прызавы фонд турніру, у якім прымуць удзел 100 шахматыстаў, складае 5 мільёнаў долараў, а чэмпіён атрымае 1 мільён 300 тысяч «зялёных». Нават той, хто прайграў у першым крузе, не застанецца ў пройгрышы — ён прэміруецца 6 тысячамі доларамі.

Працягваючы шахматную тэматыку, нельга не адзначыць адзін прыемны факт: беларускі гросмайстар Барыс Гельфанд па рэйтынгу зноў увайшоў у дзесятку мацнейшых шахматыстаў свету і зараз займае 8-ы радок.

### ПАДСАЛАДЗІЛІ ПІЛЮЛЮ?

**Зборная Беларусі па баскетболу ў чарговым адборачным матчы чэмпіянату Еўропы выйграла ў гасцях у каманды Славакіі — 86:81.**

Пляскаць у ладкі, між тым, не трэба, бо шанцы трапіць у фінал для беларусаў зусім мізэрныя — моцная грэчаская зборная свайго не ўпусціць.

**Алесь СІВЫ.**

*ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ*

### ПРЭЗІДЭНТ ПЕРУ АДМОВІЎСЯ ВЫЗВАЛІЦЬ САРАТНІКАЎ ТЭРАРЫСТАЎ

Прэзідэнт Перу адхіліў патрабаванне тэрарыстаў выпусціць з турмаў усіх членаў групоўкі «Рух Тупака Амару» у абмен на вызваленне прыкладна 380 заложнікаў. Заява была зроблена пасля экстраннага пасяджэння Кабінета Міністраў Перу. Паведамляецца, што рашэнне не носіць канчатковага характару і перамовы працягваюцца. Тэрарысты пагражаюць пачаць забіваць заложнікаў па адным, калі іх патрабаванне аб вызваленні саратнікаў не будзе выканана. Яны патрабуюць таксама гарантый бяспекі і грашовага выкупу. Японскі ўрад прапанаваў сваю дапамогу ў вырашэнні крызісу. У прыватнасці, японская антытэрарыстычная група, якая спецыялізуецца на вызваленні заложнікаў, знаходзіцца ў стане баявой гатоўнасці і гатова хоць зараз накіравацца ў Ліму і выканаць загад. Аднак улады Перу ад дапамогі Японіі адмовіліся.

### ЗАТРЫМАНЫ ПАДАЗРАВАЕМЫЯ Ў ЗАБОЙСТВЕ Ў НОВЫХ АТАГАХ

Урад Чачні паабяцаў узнагароджанне ў памеры 100 тысяч долараў тым, хто акажа дапамогу ў вышуку злачынцаў, якія забілі 12 чалавек. Акрамя супрацоўнікаў Чырвонага Крыжа, якія працавалі ў паселішчы Новыя Атагі, яшчэ 6 чалавек былі забіты ў сераду ў Грозным. Начальнік службы бяспекі Чачні Маўсаеў паведаміў, што арыштавана некалькі чалавек, якіх падазраюць у дачыненні да забойства ў Новых Атагах.

**Паводле паведамленняў радыё «Свабода», «Голас Амерыкі».**

### СТАЛІ ВЯДОМЫЯ ІМЁНЫ НОВЫХ АКАДЭМІКАЎ І ЧЛЕНАЎ-КАРЭСПАНДЭНТАЎ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ АКАДЭМІІ НАВУК БЕЛАРУСІ

Новымі правадзейнымі членамі АНБ сталі: па аддзяленню фізікі, матэматыкі і інфарматыкі — дырэктар Інстытута малекулярнай і атамнай фізікі АНБ Аляксандр Вайтовіч, прэзідэнт Рэспубліканскага фонду фундаментальных даследаванняў Аляксандр Рубанаў, дырэктар Інстытута фізікі цвёрдага цела і паўправаднікоў АНБ Мікалай Аляхновіч; па аддзяленню фізіка-тэхнічных праблем машынабудавання і энергетыкі — дырэктар Інстытута тэхнічнай акустыкі (Віцебск) Уладзімір Клубовіч; па аддзяленню хімічных і геалагічных навук — першы намеснік старшыні БелВАК Анатоль Лесніковіч; па аддзяленню біялагічных навук — дырэктар Інстытута лесу АНБ (Гомель) Віктар Іпацьеў і дырэктар Інстытута генетыкі і цыталогіі АНБ Мікалай Картэль; па аддзяленню медыка-біялагічных навук — ганаровы дырэктар Інстытута кардыялогіі Міністэрства аховы здароўя Георгій Сідарэнка, нейрахірург Фёдар Аляшкевіч і кіраўнік Рэспубліканскага цэнтра па аператыўным лячэнні рака шчытападобнай залозы Яўген Дзямідчык; па аддзяленню гуманітарных навук і мастацтваў — дырэктар Інстытута гісторыі АНБ Міхаіл Касцюк.

Новымі членамі-карэспандэнтамі АНБ абраныя: па аддзяленню фізікі, матэматыкі і інфарматыкі — загадчык аддзела Інстытута матэматыкі АНБ Фаіна Кірылава, прарэктар БДУ Віктар Карзюк, прарэктар Гомельскага ўніверсітэта Анатоль Сердзюкоў, загадчык лабараторыі Інстытута прыкладных фізічных праблем БДУ Фадзей Камароў і дырэктар Магілёўскага інстытута прыкладной оптыкі Усевалад Радзько; па аддзяленню фізіка-тэхнічных праблем машынабудавання і энергетыкі — загадчык аддзела Беларускага вышэйшага атэстацыйнага камітэта Генадзь Рымскі, намеснік дырэктара Фізіка-тэхнічнага інстытута АНБ Анатоль Гардзіенка і дырэктар Інстытута прыкладной фізікі АНБ Пётр Прахарэнка; па аддзяленню хімічных і геалагічных навук — намеснік дырэктара Інстытута біяарганічнай хіміі АНБ Ігар Міхайлопула, загадчык лабараторыі Інстытута геалагічных навук Анатоль Кудзельскі, загадчык аддзела Інстытута фізіка-арганічнай хіміі Уладзімір Агабекаў і намеснік дырэктара Інстытута праблем выкарыстання водных рэсурсаў і экалогіі Авенір Цярэнцьеў; па аддзяленню біялагічных навук — загадчык лабараторыі Інстытута лесу АНБ Рыгор Ганчарэнка, загадчык лабараторыі БДУ Аляксандр Астапеня, намеснік дырэктара Інстытута мікрабіялогіі АНБ Наталля Астаповіч і загадчык лабараторыі Інстытута эксперыментальнай батанікі Мікалай Ламан; па аддзяленню медыка-біялагічных навук — першы прарэктар Віцебскага медыцынскага інстытута Освальд-Ян Бекіш, прафесар Інстытута ўдасканалення ўрачоў Анатоль Міхайлаў, загадчык лабараторыі Інстытута радыебіялогіі АНБ Леанід Лабанок і намеснік дырэктара Інстытута фізіялогіі АНБ Уладзімір Солтанаў; па аддзяленню гуманітарных навук і мастацтваў — дырэктар Інстытута філасофіі і права Альфрэд Майхровіч і намеснік начальніка ўпраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі Адміністрацыі Прэзідэнта Аляксандр Данілаў.

**Уладзімір ТРАЦЦЯКОЎ, БелаПАН.**

**Уладзімір ПАПКОЎСКІ:**

*ПЕРШАЕ ІНТЭРВ`Ю НА НОВАЙ ПАСАДЗЕ*

# «Мы павінны вярнуць добрае імя дэпутатам»

***У Мінску новым старшынёй гарадскога Савета дэпутатаў быў выбраны Уладзімір Папкоўскі. У гутарцы з карэспандэнтам «Звязды» Уладзімір Міхайлавіч расказвае пра бліжэйшыя задачы гарсавета, планы на будучыню і крыху пра сябе.***

**Даведка «Звязды»**

*Папкоўскі Уладзімір Міхайлавіч. 51 год. Адукацыя вышэйшая. Скончыў філасофскі факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Апошні год працаваў намеснікам кіраўніка адміністрацыі Цэнтральнага раёна г. Мінска. Курыраваў пытанні развіцця прамысловасці, прадпрымальніцтва, гандлю і грамадскага харчавання. Да гэтага на працягу 6 гадоў быў намеснікам старшыні Цэнтральнага раённага Савета дэпутатаў, а таксама яго старшынёй. Жанаты. Жонка — дацэнт Беларускага дзяржаўнага эканамічнага універсітэта. Двое дзяцей —дзяўчаты. Старэйшая — настаўніца (замужам), малодшая яшчэ вучыцца ў школе.*

**— На што ў першую чаргу будуць накіраваны вашы намаганні?**

— Нам бы хацелася ў бліжэйшы час вярнуць добрае імя органам прадстаўнічай улады — жыхары Мінска павінны давяраць сваім дэпутатам. Каб палепшыць стан спраў у прамысловасці і гарадской гаспадарцы, нам неабходна арганізаваць работу з выканаўчай уладай у адной камандзе.

**— Ці ёсць у вас падставы спадзявацца на поспех?**

— Так. Практычна ўсе дэпутаты цяперашняга гарсавета маюць вышэйшую адукацыю і дастатковы жыццёвы вопыт. Першыя дні сесіі гарсавета паказалі, што дэпутаты хочуць займацца практычнымі справамі, а не абмяркоўваць свае розныя палітычныя погляды на праблемы ў грамадстве.

**— Як будзе адбывацца ўзаемадзеянне з гарвыканкомам?**

— Канцэпцыя нашай работы такая: канкрэтныя прапановы ўносяць высакваліфікаваныя прафесіяналы, дэпутаты вывучаюць іх і, з'яўляючыся прадстаўнікамі розных сацыяльных слаёў насельніцтва, уносяць туды адпаведныя папраўкі. Але для пачатку дэпутаты павінны дастаткова глыбока ўнікнуць у сутнасць праблемы, а для гэтага ім давядзецца нямала павучыцца.

**— Якія надзённыя пытанні будуць вырашацца на бліжэйшых сесіях?**

— Першачарговая наша задача, каб людзі на прадпрыемствах своечасова атрымлівалі заработную плату. Для гэтага мы будзем не проста кантраляваць рашэнні ўрада, але і дапамагаць прадпрыемствам выйсці з эканамічнага крызісу.

На бліжэйшай паслянавагодняй сесіі гарсавета мы пастараемся зацвердзіць распрацаваныя гарвыканкомам квоты прыёму на работу слаба абароненых грамадзян (пенсіянеры, інваліды, моладзь; людзі, якія вярнуліся з месцаў пазбаўлення волі). Пасля прыняцця гэтых квот умовы прыёму грамадзян на работу будуць распаўсюджвацца як на дзяржаўныя, так і на буйныя недзяржаўныя прадпрыемствы. Па гэтых палажэннях некалькі соцень прадпрыемстваў у горадзе абавязаны будуць прымаць на работу дакладна ўстаноўленую колькасць служачых. Гэта дазволіць часткова вырашыць праблему беспрацоўя ў сталіцы.

Акрамя таго, у новым годзе мы будзем уважліва адсочваць аб'ёмы свабодных офісных плошчаў у горадзе, якія неабходна здаваць у арэнду. Гэта ж жывыя грошы горада, і было б неапраўданай раскошай без толку трымаць паўпустыя будынкі.

**— Як будзе вырашацца жыллёвая праблема ў горадзе?**

— Становішча з жыллём у нас вельмі цяжкае. Яшчэ 7 гадоў назад у Мінску можна было атрымаць дзяржаўную кватэру, прастаяўшы папярэдне ў чарзе 11 гадоў. Сёння бясплатнага жылля ўжо няма. Аднак гэтая праблема ўзята пад кантроль Прэзідэнтам Беларусі і знаходзіцца на стадыі вырашэння. Частка людзей па яго праграме можа разлічваць на бясплатнае жыллё, іншыя атрымалі магчымасць будаваць ці купляць кватэры, выкарыстоўваючы дзяржаўныя крэдыты.

**— У гарвыканкоме завяршаецца фарміраванне спісаў маладых грамадзян, якія маюць права атрымаць 5-працэнтны крэдыт на жыллё. Ці будзеце вы цікавіцца працэсам размеркавання льготных крэдытаў?**

— Нам дадзена права правяраць, каму і на якіх падставах выдзяляюцца сродкі. Прымаючы праграму эканамічнага і сацыяльнага развіцця горада, дэпутаты павінны правяраць і яе выкананне. Так, гарсавет будзе кантраляваць працэс крэдытавання грамадзян. Але ў рамках сваіх паўнамоцтваў, не падмяняючы сабой органы выканаўчай улады.

**— Ці ствараюцца спецыяльныя камісіі дэпутатаў па вырашэнню самых злабадзённых праблем горада?**

— Такія камісіі ўжо сфарміраваны і пачалі працаваць. Асабліва моцная група спецыялістаў па ахове здароўя. У састаў гарсавета ўваходзяць 8 урачоў і прадстаўнікоў медустаноў. Аднак у некаторых камісіях дэпутатам давядзецца набірацца вопыту ўжо ў працэсе работы.

**— Вашы адносіны да прыватызацыі ўвогуле і да раздзяржаўлення камунальнай уласнасці — у прыватнасці?**

— На жаль, у гэтай галіне сёння назіраюцца сур'ёзныя недахопы. Мы павінны працаваць у гэтым напрамку так, каб насельніцтва забыла слова «прыхватызацыя» і цалкам прыняло праводзімыя рэформы.

**— Якія метады прыватызацыі для Мінска найбольш прывабныя: акцыяніраванне, продаж на аўкцыёнах ці ёсць нейкія іншыя?**

— Прыватызацыя ў Мінску, як і ў рэспубліцы ў цэлым, пойдзе па розных напрамках. Самым рацыянальным і мэтазгодным метадам прыватызацыі аб'ектаў камунальнай уласнасці лічыцца адкрыты аўкцыён. Але ёсць і іншая вельмі важная форма — акцыяніраванне, калі ўладальнікам становіцца працоўны калектыў, няхай нават не вельмі вялікага дзяржаўнага прадпрыемства. Буйнейшыя дзяржпрадпрыемствы сёння прыватызаваць немэтазгодна.

**— Якім вы бачыце будучыню нашай сталіцы ў трэцім тысячагоддзі?**

— Я карэнны мінчанін. З кожным годам наш горад становіцца ўсё прыгажэйшым, а жыццё ў ім усё больш камфартабельным. Асабліва хутка горад стане развівацца, калі атрымае спецыяльны статус сталіцы рэспублікі.

**— Як вы ставіцеся да ідэі стварэння сталічнай акругі?**

— Гэты напрамак распрацоўваецца цяпер у Кабінеце Міністраў. Асабіста я лічу, што будзе вельмі цяжка нешта перабудаваць без вялікіх фінансавых сродкаў. У цяжкай эканамічнай сітуацыі лепш удасканальваць ужо наяўную сістэму. Можа аказацца, што яна яшчэ не вычарпала сваіх магчымасцей.

**— Уладзімір Міхайлавіч, а што вы любіце рабіць у вольны ад работы час?**

— З'ездзіць іншы раз на дачу, палюбавацца прыродай, папрацаваць з рыдлёўкай. Магу прыгатаваць раскошную вячэру, хоць вялізнай любові да кулінарыі не адчуваю. Практычна ўсё магу зрабіць па дому сваімі рукамі. Але больш за ўсё я люблю добрую класічную музыку, сапраўды выдатны жывапіс, а таксама сяброўскія зносіны з дарагімі мне людзьмі.

**— Дзякуй за інтэрв'ю.**

**Гутарыў Сяргей КУРКАЧ.**

## 5 з 7 асуджаных украінцаў будуць вызвалены

**20 снежня ў мінскім следчым ізалятары № 1, што па вуліцы Валадарскага, пачынала работу спецыяльная камісія ў саставе супрацоўнікаў пракуратуры, суда, МУС, прадстаўнікоў мясцовай улады, якая будзе разглядаць справы аб датэрміновым вызваленні асуджаных, што падпадаюць пад прыняты Вярхоўным Саветам Закон аб амністыі. Пяць з сямі ўкраінскіх грамадзян, якія сёлета былі асуджаны Мінскім гарадскім судом за ўдзел у падзеях 26 красавіка гэтага года ў Мінску падчас шэсця «Чарнобыльскі шлях», падпадаюць пад амністыю паводле гэтага закона.**

Як паведаміў карэспандэнту «Звязды» ўкраінскі консул у Мінску Міхаіл Маскаленка, адміністрацыя спецустановы, што знаходзіцца на вуліцы Валадарскага, дзе адбываюць цяпер свой тэрмін асуджаныя ўкраінцы, паведаміла яму, што ўжо 20 снежня а 16 гадзіне пяцёра асуджаных украінцаў былі датэрмінова вызвалены.

Міхаіл Маскаленка лічыць, што ніякія матывы не могуць перашкодзіць такому рашэнню гэтай спецыяльнай камісіі, паколькі закон у роўнай ступені датычыцца ўсіх зняволеных. Пасольства Украіны ў Мінску ўжо паведаміла гэтую радасную навіну бацькам асуджаных, і тыя рыхтуюць цёплую вопратку, грошы, дакументы, неабходныя для вяртання ўкраінцаў на радзіму. 20 снежня ў Мінск прыбылі два народныя дэпутаты Украіны, якія на месцы заняліся ўзгадненнямі і адпраўкай амнісціраваных суграмадзян дадому.

Што ж датычыць апошніх украінскіх вязняў, А. Шапціцкага і У. Патапава, то вядома, што яны яшчэ не адбылі адной трэці свайго тэрміну зняволення, неабходнага для таго, каб Закон аб амністыі распаўсюдзіўся і на іх, таму яны пакуль не падпадаюць пад амністыю. Яны будуць і далей знаходзіцца пад вартай.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

*САЦЫЯЛОГІЯ*

# ЭКАНАМІЧНЫЯ ІНТАРЭСЫ НАСЕЛЬНІЦТВА БЕЛАРУСІ

### 1. АГУЛЬНЫЯ ЎЯЎЛЕННІ НАСЕЛЬНІЦТВА АБ РЫНАЧНАЙ ЭКАНОМІЦЫ

Згодна з вынікамі агульнанацыянальных апытанняў, якія рэгулярна праводзяцца Незалежным інстытутам сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў (НІСЭПД) на працягу апошніх чатырох гадоў, больш за палову рэспандэнтаў аддаюць перавагу жыццю ў рыначнай эканоміцы. Чым жа абумоўлены гэты выбар?

Для вывучэння эканамічных пераваг насельніцтва Беларусі ў ходзе апытанняў задаваўся шэраг пытанняў, якія датычацца рынкаў працы, тавараў і паслуг.

*Табліца 1*

**Рыначныя перавагі насельніцтва Беларусі, %**

| | 1993 | 1994 | 1995 | 1996 |
|---|---|---|---|---|
| *Аддаюць перавагу:* | | | | |
| 1. Высокаму заробку, але з рызыкай страты працы | 40,6 | 42,5 | 42,0 | 43,2 |
| 2. Шырокаму выбару высакаякасных тавараў па рыначных цэнах | 65,1 | 57,5 | 57,5 | 62,0 |
| 3. Платным высакаякасным сацыяльным паслугам | 59,4 | 57,1 | 49,6 | 46,3 |
| **Адказалі сцвярджальна па ўсіх трох пунктах** | **27,5** | **27,4** | **24,0** | **24,9** |
| 4. Лічаць, што прыватная ўласнасць з'яўляецца найбольш эканамічна эфектыўнай | 52,8 | 45,9 | 41,8 | 42,6 |
| **Адказалісцвярджальна па ўсіх чатырох пунктах** | **19,7** | **19,9** | **17,3** | **16,8** |

Як відаць з *табл. 1,* па кожнаму асобна ўзятаму пункту дастаткова вялікая частка насельніцтва выбірае каштоўнасці рыначнай эканомікі. Аднак трэба заўважыць, што ўзгодненасць у адказах тут вельмі нізкая: менш за 30 працэнтаў рэспандэнтаў можна лічыць паслядоўнымі прыхільнікамі рыначнай эканомікі, прынамсі, на ўзроўні разумення прынцыпаў яе функцыянавання. Калі ж улічыць адказы на пытанне аб эканамічнай эфектыўнасці розных формаў уласнасці, то «адданых рыначнікаў» застаецца менш за 20 працэнтаў.

Цікава, што, на думку вельмі значнай часткі насельніцтва, рыначная эканоміка цалкам можа быць сумяшчальнай з сацыялізмам. Як відаць з табл. 2, сярод прыхільнікаў рыначнай эканомікі ад 43,5 працэнта ў 1993 г. да больш чым 50 працэнтаў у 1996 г. адзначалі, што найбольш прымальным строем для рэспублікі з'яўляецца сацыялізм ці які-небудзь іншы грамадскі лад. Пры гэтым прыхільнікі планавай эканомікі былі куды больш паслядоўнымі ў сваіх інтарэсах — пераважная большасць з іх выказваліся за сацыялізм.

*Табліца 2*

**Выбар грамадскага ладу ў залежнасці ад пажаданага тыпу эканомікі (у прац., вынік па радку)**

| Пажаданы тып эканомікі | Лічаць, што найбольш прымальным грамадскім ладам для Беларусі з'яўляецца | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | капіталізм | | | | сацыялізм | | | | іншы лад | | | |
| | 1993 | 1994 | 1995 | 1996 | 1993 | 1994 | 1995 | 1996 | 1993 | 1994 | 1995 | 1996 |
| Рыначная эканоміка | 56,5 | 56,6 | 52,3 | 49,5 | 23,5 | 27,6 | 35,2 | 34,2 | 20,0 | 15,8 | 12,5 | 16,3 |
| Планавая эканоміка | 14,3 | 11,9 | 8,1 | 10,7 | 74,7 | 80,8 | 83,5 | 81,4 | 11,0 | 7,3 | 8,4 | 7,9 |

Як бачым, беларускія прыхільнікі рыначнай эканомікі ў цэлым не адрозніваюцца ясным разуменнем прынцыпаў яе функцыянавання. Далёка не кожнаму зразумела і тое, што рыначная эканоміка — гэта капіталістычная эканоміка. Відавочна, што рыначныя перавагі значнай часткі насельніцтва Беларусі вызначаюцца зусім не веданнем асноў рыначнай эканомікі і верай у справядлівасць «нябачнай рукі» пры падзеле «грамадскага пірага». Дык што ж адрознівае людзей, якія выбіраюць рыначную эканоміку, ад тых, хто аддае перавагу старой каманднай сістэме?

### 2. РЭАЛЬНЫ ЎДЗЕЛ НАСЕЛЬНІЦТВА Ў РЫНАЧНАЙ ЭКАНОМІЦЫ

Рыначная эканоміка, якая нараджаецца, нягледзячы на ствараемыя перашкоды, адкрывае вялікія магчымасці. Аднак гэтыя магчымасці па цэламу шэрагу прычын могуць выкарыстаць далёка не ўсе. У выніку насельніцтва непазбежна дзеліцца на дзве групы: тых, хто выйграе і прайграе ў выніку эканамічных перамен. Першыя выкарыстоўваюць новыя магчымасці, якія дае рыначная эканоміка, і паляпшаюць сваё матэрыяльнае становішча, павышаюць сацыяльны статус. Другія, наадварот, пагаршаюць свае матэрыяльныя і сацыяльныя пазіцыі, прынамсі, у параўнанні з больш удалымі суграмадзянамі.

Пры гэтым часта стан дыскамфорту адчуваецца не толькі ад абсалютнага пагаршэння матэрыяльнага становішча, але і проста ад таго, што «сусед» жыве лепш. Такім чынам, элементарная зайздрасць з'яўляецца лютым ворагам рыначнага парадку, які фарміруецца. На наш погляд, менавіта патэнцыяльныя магчымасці адаптацыі да новых умоў і асабісты поспех з'яўляюцца вызначальнымі фактарамі, якія фарміруюць эканамічныя інтарэсы насельніцтва.

Нават адносная эканамічная свабода стала магутным стымулам для развіцця недзяржаўнай эканамічнай дзейнасці. Паводле даных НІСЭПД, у 1996 г. больш як палова насельніцтва Беларусі прыняла ў ёй удзел у той ці іншай форме (ад стварэння ўласнай фірмы да элементарнай спекуляцыі). Вядома, далёка не ўсе дасягнулі поспехаў у гэтай справе, аднак больш за 61 працэнт з іх збіраюцца працягваць гэту дзейнасць.

Згодна з данымі апытання НІСЭПД у 1966 г., нягледзячы на агульны крызіс у эканоміцы, прыкладна 37 працэнтаў рэспандэнтаў адзначыла, што іх матэрыяльнае становішча, прынамсі, не пагоршылася, а 6 працэнтаў апытаных указалі, што яно палепшылася. Можна меркаваць, што сярод гэтых людзей будзе больш за ўсё прыхільнікаў рыначных рэформаў.

*Табліца 3*

**Выбар тыпу эканомікі і грамадскага ладу ў залежнасці ад удзелу ў недзяржаўнай эканамічнай дзейнасці, частаты пакупак у прыватным гандлі і змяненняў матэрыяльнага становішча (у прац., вынік па радку)**

| Удзел у недзяржаўнай эканамічнай дзейнасці: | Тып эканомікі | | Грамадскі лад | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | рыначная эканоміка | планавая эканоміка | капіталізм | сацыялізм | іншы лад |
| Удзельнічалі і збіраюцца працягваць далей | 73,8 | 26,2 | 46,6 | 42,7 | 10,7 |
| Удзельнічалі, але працягваць не збіраюцца | 53,1 | 46,9 | 30,8 | 58,8 | 10,4 |
| Ніколі не ўдзельнічалі | 42,8 | 57,2 | 22,9 | 68,9 | 8,2 |
| **Частата пакупак у прыватных гандлёвых прадпрыемствах:** | | | | | |
| Некалькі разоў у тыдзень | 82,8 | 17,2 | 50,1 | 38,3 | 11,6 |
| Некалькі разоў у месяц | 59,9 | 40,1 | 32,8 | 55,5 | 11,7 |
| Некалькі разоў у год | 39,6 | 60,4 | 21,8 | 70,7 | 7,5 |
| Ніколі не купляюць | 27,5 | 72,5 | 18,2 | 76,9 | 4,9 |
| **Змяненне матэрыяльнага становішча:** | | | | | |
| Палепшылася | 83,2 | 16,8 | 50,1 | 40,9 | 9,0 |
| Не змянілася | 59,6 | 40,4 | 36,7 | 54,4 | 8,9 |
| Пагоршылася | 47,0 | 53,0 | 26,0 | 64,4 | 9,6 |

Як відаць з табл. 3, паміж названымі вышэй фактарамі і эканамічнымі інтарэсамі існуе пэўная сувязь. Частка насельніцтва, якая змагла адаптавацца да новай эканамічнай сітуацыі, з большай ахвотай успрымае каштоўнасці свабоднага рынку. Пры гэтым, на наш погляд, не мае вялікага значэння, наколькі добра чалавек разумее прынцыпы функцыянавання рыначнай сістэмы. Важна, што новая эканамічная сітуацыя адкрывае новыя магчымасці і перспектывы.

### 3. ПАРТРЭТ ПРЫХІЛЬНІКА РЫНАЧНАЙ ЭКАНОМІКІ

Рыначныя каштоўнасці бліжэй людзям дастаткова маладым, з вельмі высокім адукацыйным узроўнем, якія жывуць пераважна ў буйных гарадах рэспублікі.

Матэрыяльнае становішча гэтых людзей, як правіла, не ніжэй сярэдняга і за апошнія гады яно, прынамсі, не пагоршылася. Яны могуць дазволіць сабе дастаткова часта карыстацца паслугамі прыватнага гандлю. Але самае, на наш погляд, галоўнае — гэта найбольш эканамічна актыўная частка насельніцтва, якая знайшла прымяненне сваім сілам і здольнасцям у сферы недзяржаўнай эканомікі.

***

Такім чынам, значная частка насельніцтва ўспрымае каштоўнасці рыначнай эканомікі праз канкрэтны асабісты вопыт удзелу ў рыначных працэсах. Зразумела, што вынікі такіх «асабістых кантактаў» з рыначнай эканомікай могуць быць як пазітыўнымі, так і негатыўнымі. Суадносіны рыначнага «пазітыва» і «негатыва» для насельніцтва цалкам будзе, у выніку, вызначаць колькасць свядомых прыхільнікаў і праціўнікаў рыначнай эканомікі ў беларускім грамадстве. У той жа час па некаторых аспектах паміж прыхільнікамі розных эканамічных сістэм няма неадольнай бездані.

Многія людзі, заблытаўшыся ў ідэалагічных установах, дзейнічаюць вельмі прагматычна, калі справа датычыцца канкрэтнага пытання. Наяўнасць значнай колькасці такіх «стыхійных» прыхільнікаў эканамічнай свабоды дазваляе спадзявацца, што пры пэўных намаганнях з боку адпаведных палітычных сіл, накіраваных на пераадоленне антырыначных стэрэатыпаў у насельніцтва Беларусі, можна значна пашырыць сацыяльную базу падтрымкі рэальных рыначных рэформаў.

**Ігар ПЕЛІПАСЬ,**
**кандыдат эканамічных навук.**

# На прызбе ў Алены

**Ведаеце, ішла сёння па вуліцы і думала: цікава, на Каляды будзе снег ці не? А як вы мяркуеце, мае шаноўныя госці? Шкада, шкада, ёсць у нашай «прызбы» адна (і я па-гаспадарску лічу — адзіная) загана: нельга атрымаць адказ адразу. Але гэта зусім не значыць, што ў нас не атрымліваецца жывой дасціпнай гутаркі, як на сапраўднай вясковай прызбе. Чытаючы вашы лісты, зусім забываюся, што пасля апублікавання маёй «балбатні» прайшло ўжо колькі дзён, таму што ў іх — адказы на мае пытанні, рэакцыя на мае рэплікі і на творы гасцей мінулай «прызбы». А самае галоўнае — вашы ўласныя спробы паказаць, хто чаго варты. У нас атрымліваецца сапраўдны шматаблічны дыялог. Я з нецярплівасцю і надзеяй чакаю, што сярод іншых жаданых гасцей да мяне зазірнуць дасціпныя гараджане, якія папоўняць скарбонку «Гарадскога раманса», таленавітыя мастакі і фатографы, якіх чакаюць-не дачакаюцца «Адкрытыя вясніцы», і выдумшчыкі і ўмельцы, якія падзеляцца сваімі сакрэтамі ў рубрыцы «Хто на што здатны». І я па-ранейшаму з дапытлівасцю цікаўнай гаспадыні пытаю ў вас: «Што чуваць?» і чакаю цікавых мясцовых навін.**



**Памятайце: «на прызбе» мы збіраемся па суботах. А вашых допісаў я чакаю штодня!**

**Алена ЛЯЎКОВІЧ.**

## Так усё і было.

**Канстанцін ПРЫЁМКА**, ***Нясвіж:***

### Генерал і капуста

Летась да Матруны сын-генерал у госці прыязджаў з сям'ёй. Матруна парсючка закалола, частуе гасцей свежанінай, прысмакамі далікатнымі. Неяк просіць сын: «Звары, мама, кіслай капусты і бульбы ў лупінах». Матруна сумелася: «Зварыць я магу, але ж гэта вельмі сялянская ежа». Сын смяецца: «Нічога. Мне даўно сніўся такі абед».

Матруна — кабета ганаровая. Не хацела, каб суседзі, крый Божа, пачулі пра гэта і падумалі, што яна — скнара, што сына-генерала і генераліху капустай і бульбай частуе. Але ж нічога не зробіш. Праз колькі дзён загад быў выкананы. Вынялі ў абед з печы два чыгункі. Сын пацягнуў носам: «О, пахі дзяцінства, дзякуй мама». Селі ўсе за стол. Не было толькі ўнучкі Юлькі. Ёй Матруна загадала стаяць у варотах. І калі хто з суседзяў будзе ісці да іх у двор, то не пускаць: «Генерал адпачывае, яго не трэба турбаваць».

**Іван ВІКТАРОВІЧ**, ***Лунінец:***

### Сказ суседа Васіля пра рагатага каня

Мой сусед Васіль нарадзіўся ў самым пачатку саракавых. Але вайну ён памятае добра, а калі вып'е чарку, то можа прыгадаць, як ён нават і ваяваў. Некалькі эпізодаў з яго ваеннага дзяцінства паслухайце! Васіль:

— Стаяла халодная, марозлівая зіма. Група разведчыкаў, у якой знаходзіўся і я, завярнула на адзін з хутароў пагрэцца і штонебудзь перакусіць. Не паспелі як след адпачыць, як прынесла немцаў. Прыйшлося ўцякаць усім, а мне было загадана прыкрываць адыход. Страляў праз акно вельмі трапна, амаль усіх паклаў, але неяк два немцы падкраліся пад дзверы і крычаць: «Васіль, што робіш? Ты ж нас усіх пераб'еш!»

Не доўга думаючы я кінуўся ў акно і па глыбокім снезе дабраўся да жыта і там схаваўся. Камары пякуць у жыце, а немцы на лыжах побач «шух», «шух» і не бачаць мяне. Калі праехалі, я ім удагонку гранату бах — і ўсім крышка. Праўда, быў такі моцны мароз, што рука прымерзла да гранаты, і калі яе кідаў, то адарваліся во гэтыя два пальцы і паляцелі таксама.

— Але ж, Васіль, твае пальцы на месцы? — пытаю яго.

— Эге, дык колькі гадоў прайшло! Новыя выраслі!

— ???

— Чаго дзівуешся? І каня сабе ў час вайны прыдбаў з рагамі, каб менш валакіты з аброццю ды лейцамі. Вялікія былі рогі, нібы ў аленя. Шкада, пасля прыйшлося гэтыя рогі збіваць лапатай ды рабіць з іх плуг. А каня цэлую зіму потым хаваў на печы ў хаце, каб не здох ад холаду.

Канешне, табе трыццаць з хвосцікам гадкоў і ты, што было калісь, не ведаеш. А яно так усё і было, браток...

## Як жывецца — так пяецца

**Веніямін ШЫЧКО,**
***в. Слабада, Крупскі раён:***

*Марына за малако*
*Купіла дачцэ трыко.*
*А Ягор за самагонку*
*Купіў сыну «Жыгулёнка».*

**Рэгіна ЛАСТОЎСКАЯ**, ***Паставы:***

*«Жыгулі» я не хачу,*
*«Вольва» не жадаю.*
*Я педалямі кручу,*
*Пра бензін не дбаю.*

**Віктар ФЕДАРАКА**, ***Скідаль:***

*Захацеў купіць дыван,*
*Ён мне ноччу сніўся.*
*Дык пакуль лічыў нулі,*
*Тры разы аж збіўся.*

**Ніна ЗАХАРЭВІЧ**, ***Паставы:***

*Пойдзе хлопец у салдаты —*
*Праз паўгода стараваты:*
*Абліччам не мяняецца,*
*А «дзедам» называецца.*

**Галіна СЯРГЕЙ**, ***Гродна*:**

*Зноў зіма на горад села,*
*Торбу з пухам выняла.*
*«Ты, — гавораць, — пасівела».*
*«Не, — кажу, — заінела!»*

**Людміла ЮШЫНА**, ***Гомель:***

*Навучала мяне маць,*
*Каб я кінула брахаць.*
*Ну, а я, як не збрашу,*
*Дык, здаецца, не дышу.*

## Каля майго церама

**Святлана СТРАКАЧ**, ***Салігорск*:**

### Пра Хведара па мянушцы Член

Усе мы добра памятаем, што ў так званыя застойныя часы многія ўступалі ў партыю. Хто дзеля кар'еры, а хто проста папаўняў шэрагі камуністаў, не вельмі разумеючы матывы свайго ўчынку — рабілі «як усе». «Як усе» зрабіў і Хведар. Падаў заяву і стаў кандыдатам у члены партыі. Аднавяскоўцам хваліўся, што хутка ён стане сапраўдным чалавекам, будзе членам КПСС. Усім надакучыў сваёй балбатнёй аб членстве. І да Хведара прыклеілася мянушка — Член.

У вёсках амаль у кожнага ёсць свая мянушка. Хведар і жыў з ёй, хоць членам партыі так і не паспеў стаць. З развалам Саюза, як вядома, развалілася і партыя.

Аднойчы позняй восенню, пад вечар, Хведар-Член сустрэў суседа Нічыпара. Той запрасіў выпіць. Жонкі Нічыпара якраз не было дома, паехала ў горад да дзяцей. Тут ужо мужчынам была прастора, і яны пілі колькі ўлезла. Хведар хутка захмялеў, а Нічыпар яшчэ трымаўся. Ужо і дамоў ісці пара.

Выйшлі на ганак. Член захістаўся і бразнуўся вобземлю. Нічыпар крактаў, намагаўся падняць сябра, але той не валодаў ні языком, ні нагамі. На вуліцы дзьмуў пранізлівы, марозны вецер.

— Прыйдзецца ісці па дапамогу, — варушыў п'янымі мазгамі Нічыпар і пакрочыў да Наталлі — жонкі Хведара.

Адчыніў дзверы, зайшоў у хату і, прывітаўшыся, выпаліў: «У мяне каля ганка ўпаў Член, я яго паднімаю, а ён падае. Жонкі маёй няма дома, дык патрабуецца твая, Наталля, дапамога, без цябе я адзін не спраўлюся».

Наталля падазрона глянула на Нічыпара і адрэзала: «Мне твой член патрэбны, як сабаку пятая нага».

— Дык гэта ж твой Член, — мармытаў Нічыпар, — Дый яму ж напэўна холадна на вуліцы, змерзне яшчэ.

Але раз'юшаная жанчына не слухала Нічыпара.

Наталля ўзялася за качаргу. Нічыпар, хоць і быў п'яны, але своечасова зразумеў, што лепш уцякаць і даў лататы.

**Пятро МЕРГЕС**, ***Івацэвічы.***

### Калач на печы

Фядоса ў вёсцы клікалі Калач. Чаму яму далі такую мянушку, ён і сам не ведаў. Але людзі кажуць, за яго гультайства (ляноту). Жыў ён бедна, у старой хаціне. Жонка памерла, а прыёмны сын меў сваю сям'ю і жыў асобна. Цэлымі днямі бадзяўся па суседзях, дзе і жывіўся сяк-так, а на ноч ішоў у сваю хату і забіраўся спаць на печку. Укрываўся рванай дзяружкай.

У той год зіма выдалася суровая. Стаялі 30-градусныя маразы. Фядос, вярнуўшыся ад суседа, па звычцы забраўся на печку, а раніцай не змог адарваць галаву ад сцяны. Валасы так прымерзлі да яе, што яму спатрэбілася нямала часу, каб выратавацца з ледзянога палону.

Вось і кпяць зараз над гультаямі ў вёсцы: «Прымерзнеш і ты, як Калач на печцы.»

## Коця ў чырвонай капоце

**Аліна ЯКУБОВІЧ,**
***в. Струбніца, Мастоўскі раён:***

### Колькі «прыколаў» са школьнага жыцця

Я шмат гадоў працавала ў вясковай школе. Прапаную некалькі невялікіх абразкоў са свайго настаўніцкага вопыту:

* * *

Прыдумваюць простыя апавядальныя сказы. Усе ўжо прыдумалі, толькі Стасік маўчыць.

— Стась, а твой сказ?

— Казёл сядзеў на плоце.

* * *

Гэты ж Стасік пераказвае змест апавядання блізка да тэксту:

— Па вуліцы ішла маладая жанчына і вяла карову ў белым халаце.

* * *

Старая казка ў сучаснай інтэрпрэтацыі:

— Старыя Снягурачку абагрэлі, накармілі, далі сто грам і паклалі яе спаць.

* * *

**Вытрымкі з сачыненняў і пераказаў:**

«Ляснік здзівіўся, што Ленін такі грыбны, а назбіраў абы-чаго».

«Полымя высоўвала свой язык з акна першага паверха і даставала ім аж да другога».

* * *

Падпісаны сшытак:

С. П. Б. М. С. С.

— Што гэта значыць?

— А што тут незразумелага? «Сшытак па беларускай мове Сакалоўскай Святланы».



**Малюе Рома ЛАПО, 6 гадоў**, ***Клімавічы:***
**Мая снежная баба.**

## Гарадскі раманс

Гэты твор можна было б аднесці да намінацыі «Перапевы», але тэма — тыпова гарадская... **(А. Л.).**

**Ала ГАЙДОЎСКАЯ**, ***Мінск:***

### Ў саду гуляла

*Ў саду гуляла, пляшкі збірала,*
*Насабірала я іх нямала.*
*Насабірала бутэлек дзвесце,*
*Цяпер як-небудзь дадому знесці.*

*Так-сяк данесла, ды не шанцуе,*
*Укралі кабель — ліфт не працуе.*
*Ўгару цягнуся, аж сэрца б'ецца:*
*Я павалюся — ўсё разаб'ецца.*

*Так-сяк дапёрла, ў кватэру ўнесла,*
*Змачыла горла, ды бух у крэсла.*
*Як адпачыла, як пасядзела —*
*Малы свой бізнес я аглядзела.*

*А на бутэльках — пяску і бруду,*
*Ніхто не прыме гэтку пасуду.*
*Злажыла ў ванне, памыць хацела —*
*Ў гарачым кране ледзь булькацела.*

*Вады сагрэла, так-сяк абмыла,*
*Сарціравала, ў мяшкі злажыла.*
*Цягну здаваць я ад хаты блізка —*
*«Няма прыёму» — вісіць запіска.*

*У пункце другім кабета гарна:*
*— Няма прыёму, бо нету тары!*
*У трэцім пункце хлапец харошы:*
*— Не прыму пляшкі — не хопіць грошай!*

*Цягну абратна, спіны не чую, —*
*— Пастой, жанчына, — я голас чую. —*
*Дай пашкадую тваю я спіну,*
*Плачу за пляшкі я палавіну.*

*Ўзяла за посуд палову грошай,*
*Хутчэй дахаты, хутчэй у ложак,*
*Цяпер гуляю, ў саду сяджу я,*
*А на бутэлькі больш не гляджу я.*

*Ў саду гуляю, ў саду сяджу я,*
*А на бутэлькі — цьфу! — не гляджу я.*

## Я не паэта

**Аркадзь НАФРАНОВІЧ,**
***в. Камаі, Пастаўскі раён:***

### Прызнанне ў любові

*І раней я прызнаваўся зрэдку,*
*І сягоння не крыўлю душой:*
*Я шчаслівы — кожнай сваёй клеткай*
*Знітаваны з роднаю зямлёй.*

*Шмат на ёй няпрошаных прышэльцаў,*
*Ім бы тут усё пусціць на злом.*
*Для мяне ж яна — і маё сэрца.*
*І мой лёс, і самы светлы дом.*

*Дзе яшчэ лясы такія, травы!*
*І сцвярджалі продкі нездарма:*
*Без яе ні гонару, ні славы,*
*І жыцця шчаслівага няма.*

*Верным сынам, а не важным панам*
*Я сваёй зямлі стараўся быць.*
*І ніхто ні сілай, ні падманам*
*З ёй мяне не зможа разлучыць.*

# УСХОДНІ ГАРАСКОП НА НАСТУПНЫ ТЫДЗЕНЬ

КАЗЯРОГ завершыць адыходзячы год у добрым настроі і з нядрэннымі дывідэндамі. Дзелавое прадпрыемства, якое прыносіла адны даўгі, стане прыбытковым. Планеты раяць неадкладна распарадзіцца даходамі і ўкласці іх у новы надзейны праект. Такому важнаму кроку не перашкодзяць весялосць і радасныя падзеі ў вашым доме напярэдадні навагодняга свята.

ВАДАЛЕЯ захопяць бурныя падзеі, якія прымусяць адначасова займацца бізнесам, справамі па службе і хатнімі клопатамі. Асцерагайцеся ў спешцы зрабіць няправільны ход і ўскладніць сабе жыццё. Астролаг папярэджвае, што вашы поспехі падабаюцца не ўсім і таму не трэба лішні раз дражніць гусей.

РЫБЫ акажуцца ў атмасферы вясёлага свята, хоць некаторыя падзеі ў жыцці прымусяць адчуць заклапочанасць. У сувязі з тым, што справы ў вас ідуць выдатна, самы час удзяліць увагу асабістаму жыццю. Маладыя дамы выберуць надзейнага сябра і задумаюцца аб шлюбе. Тыдзень пройдзе ў перадсвяточных клопатах і віншаваннях блізкіх з Новым годам.

АВЕНЫ правядуць даволі незвычайны тыдзень без асабліва радасных і сумных усплёскаў. Чакаецца атрыманне грошай, якія можна з толкам патраціць на падарожжа. Хатнім гаспадыням будзе не да ваяжу з-за паходаў па магазінах і падрыхтоўкі да навагодніх святаў. А моладзь можа адпачыць у асяроддзі сяброў і адправіцца ў падарожжа.

ЦЯЛЬЦЫ праявяць уласцівы ім энтузіязм у падрыхтоўцы да сустрэчы Новага года. Але гэта не адцягне вашу ўвагу ад роздумаў аб далейшай кар'еры і чаканняў новых дзелавых прапаноў ад партнёраў. Дзяржаўным служачым начальства паведаміць аб павышэнні акладу ці пераводзе на кіруючую пасаду. Маладых чакае задавальненне адно адным, а ўсіх вас здзівіць мноства прыемных сюрпрызаў.

БЛІЗНЯТЫ адчуюць задавальненне ад удалага ходу сваіх спраў. Камерсанты з выгадай распарадзяцца атрыманымі нядаўна грашыма. Шмат работы выпадзе тым, хто заняты гасцінічным бізнесам, працуе ў прамысловасці і гандлі. Аднак галоўным для вас будуць перадсвяточныя клопаты і падрыхтоўка да вясёлай сустрэчы надыходзячага года.

РАК пераканаецца, што апошні тыдзень года акажацца для яго надзвычай выніковым. Ваша фінансавае становішча яшчэ больш умацуецца з падпісаннем новага перспектыўнага кантракта. Служачыя атрымаюць павышэнне, а маладое пакаленне адправіцца ў вясёлае падарожжа. Тым з вас, каму за 50, трэба звярнуць ўвагу на здароўе. Не варта перанапружвацца перад самым галоўным святам у годзе.

ІЛЬВЫ закончаць год на добрай фінансавай ноце, але з жаданнем большых дывідэндаў у бліжэйшай будучыні. У сям'і ўсё будзе добра, але з-за часовай адсутнасці каханага чалавека будзе крышачку сумна і адзінока. Настрой павысіцца ад добрых вестак па тэлефоне і сустрэчы з сябрамі. Яны дапамогуць вам сустрэць Новы год з радасцю і аптымізмам.

ДЗЕВА апынецца ў цэнтры святочнага віхру. Настрой узнімуць яшчэ вышэй фінансавыя поспехі і стабільнасць у справах. У будучым годзе ў вас усё будзе ісці нават лепш, чым у мінулым, але для гэтага давядзецца і пазмагацца, і папрацаваць. Не скупіцеся і набудзьце для каханага чалавека навагодні падарунак як мага даражэйшы. Гэта ацэняць па заслугах, а вы вырасцеце ва ўласных вачах.

ШАЛІ многа грошай патрацяць на розныя пакупкі да свята і па іншых прычынах. Магчыма далёкае падарожжа для адпачынку і пошуку прыгод. Тым, хто займаецца будаўніцтвам уласнага дома, давядзецца ненадоўга спыніць работу з-за затрымкі пазыкі. Ад вас спатрэбяцца новыя інвестыцыі па прычыне таго, што будматэрыялы даражэюць.

СКАРПІЁН мае шанц выкарыстаць магчымасці для ператварэння тыдня ў сямідзённае свята. Планеты настроіліся на спрыяльны лад у адносінах да вас і таму ладзьце вяселлі, адзначайце юбілеі і іншыя ўрачыстасці. Паспяховая дзелавая дзейнасць і шчасце ў асабістым жыцці не пакідаюць вам прычын для суму і дрэннага настрою.

СТРАЛЕЦ завяршае год на бравурнай ноце, перапоўнены новымі планамі і смелымі ідэямі. Вашым амбіцыям не суджана быць задаволенымі поўнасцю. Ад новых грандыёзных задум вы пераходзіце да чарговых вялікіх здзяйсненняў, працягваючы пошук незвычайнага ў жыцці. Але не забывайцеся, што пры гэтым вам трэба быць абачлівымі, што дапаможа пазбегнуць магчымых памылак.

**Леанід КОТАЎ,**
**кар. ІТАР—ТАСС.**

*г. Дэлі.*

# НАРОДНАЕ АБ'ЯДНАННЕ «МАЛАДЗЕЧНАМЭБЛЯ» ПАКАЗВАЕ ВЫДАТНЫ ПРЫКЛАД ВЫЖЫВАННЯ ВА ЎМОВАХ ПЕРАХОДУ ДА РЫНКУ

## У апошні час мэбля з Маладзечна карыстаецца ўсё большай папулярнасцю ў Беларусі і далёка за яе межамі

**Зірніце на апублікаваныя здымкі і вы адразу зразумееце, што маладзечанская мэбля прыгожая, сучасная і рэспектабельная. Гэта першае ўражанне. А калі вы вырашыце больш дэталёва і грунтоўна з ёй пазнаёміцца ў салоне мэблі ў Мінску па вуліцы Берасцянскай, 15 ці ў фірменным магазіне ў Маладзечне пры самой фабрыцы, то пераканаецеся, што гэта мэбля якасная і ў вашых кватэры, доме здольная стварыць атмасферу ўтульнасці і цеплыні. А без гэтага, пагадзіцеся, дом не дом, а так сабе, пабудова.**

НА ЖАЛЬ, абмежаваная газетная плошча не дазваляе ў поўным аб'ёме прадэманстраваць усю прадукцыю «Маладзечнамэблі». Але спадзяёмся, што і змешчанае ў сённяшнім нумары пераконвае ў тым, што на гэту мэблю нездарма ёсць попыт, які за мінулыя два гады набыў прыемную для калектыву аб'яднання тэндэнцыю ўстойлівага росту.

*Аднак не трэба думаць, што поспех сам сабой прыйшоў да маладзечанскіх мэбельшчыкаў. Каб лепш зразумець яго вытокі, зробім невялікі экскурс у гісторыю прадпрыемства. Яго шлях пачынаецца з сакавіка 1954 года. Першая прадукцыя была даволі простая: шафы, серванты, пісьмовыя сталы. Ды і сама фабрыка больш нагадвала вялікую арцель, чым прамысловае прадпрыемства: тады там працавалі ўсяго 52 чалавекі, а ручная праца складала 85 працэнтаў.*

*У 60—70-х гадах фабрыка атрымала далейшае развіццё. Былі ўзведзены машына-фанеравальны і зборачна-аддзелачны цэхі. Таксама ўкаранілі новае абсталяванне і тэхналогію. Мэблю пачалі вырабляць з іншых, больш прыгожых і сучасных матэрыялаў, што, зразумела, адразу адбілася на якасці выпускаемай прадукцыі.*

*Цяпер, а дакладней з мінулага года, фабрыка ўжо вядома яе шматлікім партнёрам і спажыўцам як народнае прадпрыемства «Маладзечнамэбля».*



**Набор корпуснай мэблі «Маладзечна 15-В2» у фірменным магазіне пры аб'яднані ў г. Маладзечна.**

*Да гэтага пэўны тэрмін фабрыка паспела пабыць і ў якасці арэнднага прадпрыемства, але з цягам часу калектыў паступова прыйшоў да высновы: каб выжыць у жорсткіх умовах пераходу да рыначнай эканомікі, неабходна памяняць форму ўласнасці. Ці, інакш кажучы, стаць калектыву сапраўдным, а не фармальным уласнікам фабрыкі. Не будзем спыняцца на ўсіх тонкасцях справы, але неўзабаве будынкі фабрыкі, абсталяванне і г. д. былі выкуплены яе працаўнікамі. Яны сталі яе паўнапраўнымі гаспадарамі. Людзі зразумелі, што гэта рабілася з мэтай рэзкага паляпшэння якасці мэблі, павелічэння прадукцыйнасці працы і адначасова, па меры магчымасці, зніжэння сабекошту прадукцыі, без чаго нават і не варта весці размову аб яе канкурэнтаздольнасці.*



**Набор корпуснай мэблі «Маладзечна 15-Д2».**

З гэтага моманту, як лічаць у Маладзечне многія, з кім нам давялося размаўляць, пачалося бурнае развіццё прадпрыемства, асваенне новых відаў прадукцыі і адначасова рашучы наступ на рынкі мэблі Беларусі і іншых краін. У самім калектыве гэтыя здабыткі звязваюць з асобай генеральнага дырэктара аб'яднання «Маладзечнамэбля» Валерыя Уладзіміравіча Бушылы. Менавіта ён быў і застаецца генератарам новых ідэй, якія станоўча былі ўспрыняты ў калектыве.

Пачуццё гаспадара, пра неабходнасць выхавання якога не адно дзесяцігоддзе безвынікова далдоніла савецкая прапаганда, нарэшце без лішніх слоў стала важным фактарам развіцця вытворчасці. Можна бясконца заклікаць і ўгаворваць людзей лепш працаваць і заставацца, як кажуць, пры сваіх інтарэсах. Іншая справа, калі чалавек уклаў у прадпрыемства свае асабістыя сродкі і ведае, што па выніках квартала ён абавязкова атрымае яшчэ і дывідэнды. Прычым іх памер непасрэдна будзе залежаць ад намаганняў кожнага работніка і калектыву ў цэлым. Тут ёсць сэнс імкнуцца працаваць лепш і больш. І зусім не выпадкова сёлета прадукцыйнасць працы ў аб'яднанні «Маладзечнамэбля» ўзрасла аж на 40 працэнтаў! А тэмпы росту таварнай прадукцыі склалі 130 працэнтаў.

Не выпадкова леташняя змена формы ўласнасці супала з шырокім асваеннем новага асартыменту прадукцыі. Тады, напрыклад, паставілі на канвеер выпуск мэблі з дубу. Яна, дарэчы, нятанная і разлічана на пакупнікоў са сродкамі. Але такія пакупнікі звычайна разбіраюцца ў мэблі і згаджаюцца выкладваць салідныя грошы толькі за якасную і з густам зробленую мэблю. І тое, што ў маладзечанцаў (прычым як дарагая, так і не вельмі) мэбля не залежваецца на складзе, гаворыць само за сябе аб яе спажывецкіх вартасцях.

Калі ў «Маладзечнамэблі» і баяцца чаго, дык гэта затаварвання прадукцыяй. Але падобнае аб'яднанню пакуль не пагражае. Добра разыходзяцца новыя віды «сценак». Спажывец можа выбраць звычайную прамую «сценку», а можа вуглавую, а калі матэрыяльнае становішча дазваляе, то і з элементамі ручной работы — разьбой па дрэве. Таксама ахвотна набываюць новыя віды набораў корпуснай мэблі «Маладзечна», наборы для спальні пад агульнай назвай «Неўда». Ёсць «Неўда-1», «Неўда-15, -16». Распрацаваныя і з 1997 года пачнуць выпускацца, як лічаць у «Маладзечнамэблі», перспектыўныя наборы для спальні «Рамонак», набор для залы. Іх аўтары — тутэйшыя майстры і канструктары, якія творча асэнсоўваюць перадавы вопыт сусветных лідэраў па вытворчасці мэблі. З гэтай мэтай спецыялісты аб'яднання наведваюць і ўдзельнічаюць у выставах мэблі, уважліва сочаць за апошнімі распрацоўкамі ў галіне.

Сярод замежных партнёраў асноўныя Расія, Украіна, Казахстан і Германія. У дзесятках расійскіх гарадоў прадаецца сёння мэбля з Маладзечна. У Санкт-Пецярбургу і паўднёва-заходніх губернях Расіі яе продажам займаецца сумеснае з маладзечанцамі прадпрыемства.

З немцамі іншае супрацоўніцтва. Яны прывезлі свае распрацоўкі (у асноўным гэта сакрэтнікі «Бадэн», тумбы) і размясцілі тут свае заказы, а гатовую мэблю вывозяць на продаж у Германію. Праўда, частка гэтай прадукцыі прадаецца ў Беларусі. Ёсць іншыя цікавыя прапановы ад замежных вытворцаў мэблі. Усе яны зараз уважліва вывучаюцца ў аб'яднанні. Але, каб паспяхова развіваць знешнеэканамічныя сувязі, неабходна на сучасным узроўні падтрымліваць вытворчы працэс, своечасова ажыццяўляюць тэхнічнае пераўзбраенне. Таму нядаўна аб'яднанне набыло ў Францыі сушыльныя камеры.

Сёння маладзечанскія мэбельшчыкі адчуваюць усё большыя цяжкасці з набыццём драўніны дуба. Яго рэсурсы ў Беларусі абмежаваныя. Даводзіцца завозіць з іншых краін, што не лепшым чынам адбіваецца на сабекошце прадукцыі. Каб зменшыць залежнасць ад паставак сыравіны, у аб'яднанні паступова асвойваюць вытворчасць з іншых парод дрэў. А Беларусь, як вядома, багатая на бярозу. З яе масіву будзе выробляцца ўжо названы вышэй перспектыўны набор для спальні «Рамонак». Можам засведчыць (калі меркаваць па доследных узорах): мэбля з бярозы атрымалася прыгожая. Яна можа, у залежнасці ад колеру афарбоўкі, выпускацца з рознай гамай адценняў. Акрамя таго, бяроза амаль у два разы таннейшая за дуб, што, трэба спадзявацца, з энтузіязмам будзе ўспрынята пакупнікамі. Сёння кубаметр драўніны дуба каштуе каля двух мільёнаў беларускіх рублёў.



**Спальня «Мернгія».**

Шмат ўвагі ў аб'яднанні надаюць знешняму выгляду мэблі. На гэтым тут не эканомяць. Напрыклад, дубовы шпон набываюць праз Літву ў Канадзе, фурнітуру — у Аўстрыі, лакі і фарбы — у Германіі.

У аб'яднанні існуюць тры ўзроўні цэн. Самая нізкая — перадаплата. Крыху большая цана, калі палова кошту аплачваецца па перадаплаце, а другая палова — у растэрміноўку да 15 дзён. І трэці ўзровень — у растэрміноўку. Гэтая цана самая высокая.

Акрамя маладзечанскай у аб'яднанне ўваходзіць яшчэ і Вілейская мэблевая фабрыка. Яна спецыялізуецца на выпуску кухань з дубовым фасадам, мэблі для пярэдняга пакоя, камодаў, тумбаў пад тэлевідэарадыёапаратуру, вядомых вырабаў «Надзея», «Вілія». Усяго там выпускаюць шэсць відаў мэблі для прыхожых. Нездарма на выстаўцы «Мэбля-97» Вілейская фабрыка была адзначана за работу па аднаўленню асартыменту.

Жорсткага плана па выпуску таго ці іншага віду мэблі ў аб'яднанні няма. Што і ў якой колькасці выраблянь дыктуе попыт спажыўцоў. У залежнасці ад заявак і складаюцца вытворчыя планы.

Практычна ў новых умовах аб'яднанне працуе больш як год. Але за гэты тэрмін яго прадукцыя заслужыла павагу не толькі ў пакупнікоў. Сёлета ацэначная камісія буйной выстаўкі «Мэбля-97» адзначыла вырабы маладзечанцаў дыпломам І ступені за якасць, дызайн і сучаснасць.

Прыемным сюрпрызам для калектыву аб'яднання стала вылучэнне «Маладзечнамэблі» на міжнародную ўзнагароду «Факел Бірмінгама». Яе атрымліваюць прадпрыемствы, якія дасягнулі выдатных вытворчых вынікаў у вельмі складаных сацыяльна-эканамічных умовах існавання.

**Леанід ЛАХМАНЕНКА.**
**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**

**КААРДЫНАТЫ «МАЛАДЗЕЧНАМЭБЛІ»:**
222310, Мінская вобласць, г. Маладзечна, вул. Я. Драздовіча, 14.
**Тэлефоны:**
фірменны магазін пры аб'яднанні: (01773) 5-18-81;
аддзела збыту: 5-48-51, 5-48-74, 5-17-72; факс 5-46-71.



**Набор корпуснай мэблі «Маладзечна 20-Д4».**



**Спальня «Неўда-16».**

# ІНФАРМАВАНАСЦЬ ТУРЫСТА — ЗАЛОГ ПАСПЯХОВАЙ ВАНДРОЎКІ

**Трапіць зараз за мяжу, у адрозненне ад колішніх часоў, не праблема. Як кажуць, былі б грошы. Са з'яўленнем шматлікіх турыстычных фірмаў надзённай праблемай стала, бадай, сама арганізацыя паездкі, яе камфортнасць. А то як бывае: абяцалі кліенту гатэль з усімі выгодамі, а за мяжой пасялілі ў бараку; на радзіме гаварылі, што ўсё аплачана коштам пуцёўкі, а на месцы за экскурсіі прыйшлося плаціць са сваёй кішэні зноў. Ці, барані Божа, каб з табой чаго ў замежнай краіне не здарылася, а «беражлівая» фірма не паклапацілася пра медстрахоўку.**

**Наперадзе ў нас Каляды і Новы год, у дзяцей — канікулы, таму, магчыма, нехта захоча здзейсніць сваю мару — пабываць за мяжой. Як пры гэтым не трапіць у непрыемнае становішча — гутарка нашага карэспандэнта з юрыстам Мінскага таварыства спажыўцоў Таццянай ГАРУПА.**

**— Таццяна Аляксандраўна, ці прыходзілася вашай арганізацыі мець справу са скаргамі спажыўцоў на няякаснае аказанне турыстычных паслуг?**

— Вядома. Часцей за ўсё нам прыходзіцца разбіраць справы, калі спажыўцу давалася недакладная інфармацыя аб паслузе, у прыватнасці, аб кошце пуцёўкі. Так, напрыклад, адна мінчанка набыла пуцёўку ў Санкт-Пецярбург, заплаціўшы за яе аванс у памеры 550 тыс. рублёў. Астатняя частка кошту па дагаворанасці аплачвалася крыху пазней. Аднак за два дні да ад'езду гэта сума павялічылася ў некалькі разоў. Жанчына звярнулася па дапамогу да нас: у выніку фірма хутка выправіла сітуацыю і вярнула турыстцы грошы. Ці вось іншая сітуацыя: беларуская турфірма прадала сваім кліентам недакладную інфармацыю аб кошце пуцёвак у санаторыях Крыма. На самай жа справе ён значна перавышаў указаную суму. Пасля нашага ўмяшання грошы былі вернуты.

**— Падкажыце, калі турыст знаходзіўся ў дарозе значна больш часу, чым было абяцана пры набыцці пуцёўкі, і прыбыў на месца, скажам, на паўсутак пазней, ці можа ён прад'явіць турфірме прэтэнзію?**

— Можа, калі час знаходжання ў дарозе быў агавораны ўмовамі дагавора. Наяўнасць дагавора — вельмі важны момант. Кожнаму турысту неабходна ведаць, што 28 лістапада 1996 г. Міністэрствам спорту і турызму РБ былі прыняты «Часовыя правілы дзейнасці ў сферы турызму на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь». З гэтага часу ўсе віды турыстычных паслуг могуць ажыццяўляцца толькі на падставе дагавора, падпісанага абодвума бакамі. У ім у абавязковым парадку павінны быць зафіксаваны працягласць, дата пачатку і заканчэння падарожжа, апісанне маршруту з характарыстыкай транспарту, пражывання, харчавання і іншых паслуг, уключаных у кошт тура, сам кошт тура, назва, адрас і нумар ліцэнзіі турыстычнай арганізацыі і іншыя «дробязі». Наяўнасць такога дакумента дасць магчымасць турысту ў выпадку неадпаведнасці фактычных умоў падарожжа тым, якія ўказаны ў дагаворы, атрымаць кампенсацыю.

Таксама «Часовыя правілы» замацавалі яшчэ адно істотнае патрабаванне, якое прад'яўляецца да турыстычных фірмаў, — абавязковае страхаванне турыстычных груп, якія выязджаюць за мяжу, ад няшчаснага выпадку.

**— Хвароба спажыўца можа лічыцца ўважлівай прычынай для адмовы ад экскурсійнага абслугоўвання?**

— Пакуль не. Але мы звярталіся ў Міністэрства спорту і турызму з прапановай уключыць у спіс выключных акалічнасцей такія сур'ёзныя хваробы, як інсульт, інфаркт і інш. Пакуль прыняты толькі падзаконны акт, і мы спадзяёмся, што ў «Законе аб турызме» наша прапанова будзе ўлічана.

**— Калі на мяжы высвятляецца, што ў турыста не ўсё ў парадку з выязнымі дакументамі, ці нясе турфірма адказнасць за зрыў паездкі?**

— Таварыства спажыўцоў прасіла ўключыць у «Часовыя правілы» пункт, згодна з якім абавязак па афармленню ўязных-выязных дакументаў узялі б на сябе турыстычныя фірмы. Аднак дзеля справядлівасці варта сказаць, што часам складваюцца сітуацыі, якія можна вырашыць толькі на дзяржаўным узроўні, у якіх віны турфірмаў няма. Так, напрыклад, нашу турыстку дэпартавалі з Ізраіля: пасадзілі ў першы самалёт і адправілі дамоў, нічога дзяўчыне не растлумачыўшы. Хоць уязныя дакументы ў яе былі аформлены належным чынам, прычым яна нават прайшла субяседаванне ў пасольстве Ізраіля, дзе ёй паставілі візу, якая дазваляе ўезд у краіну.

Але некаторыя турфірмы сёння ўсё ж бяруць на сябе абавязак па афармленню дакументаў. Вось у гэтым выпадку, калі ў вас у пашпарце не хапае якога-небудзь штампіка ці подпісу, фірма за інцыдэнт нясе адказнасць.

**— Ці можа турыст абараняць свае правы спажыўца ў судзе і якія для гэтага павінны быць падставы?**

— Калі турыстычная фірма не задаволіла прэтэнзію кліента, ён можа звяртацца ў суд. Але ў судзе ад яго запатрабуюцца дакументальныя пісьмовыя доказы ці паказанні сведак. Наогул, усім спажыўцам не трэба забываць, што любая асоба, якая займаецца на тэрыторыі рэспублікі прадпрымальніцкай дзейнасцю, пры продажы якога-небудзь тавару ці аказанні паслугі павінна выдаваць адрыўныя талоны, зарэгістраваныя ў падатковай інспекцыі і з яе пячаткай. Гэта ўжо дакументальнае пацвярджэнне таго, што чалавек знаходзіцца з фірмай у дагаворных адносінах. Перадачу грошай з рук у рукі, майце на ўвазе, даказаць складана, неабходны дакумент.

Усім членам турыстычнай групы я раю абмяняцца каардынатамі, каб пры неабходнасці можна было знайсці сведак, якія б пацвердзілі, што ўмовы дагавора разыходзіліся з рэчаіснасцю.

І яшчэ адзін важны момант: калі пасля прыбыцця на месца вас пасялілі не ў абяцаны пяцізоркавы гатэль, а ў які-небудзь інтэрнат маладзёжнага тыпу, то бярыце ў рукі фотаапарат і фатаграфуйце сябе на фоне гэтых неадпаведнасцей. У нас быў выпадак, калі дваіх хлопцаў у Балгарыі пасялілі ў такую халупу, што яны былі вымушаны наняць за свае грошы кватэру. А прапанаванае ім фірмай «жыллё» яны сфатаграфавалі з усіх бакоў. Акрамя таго, з гаспадарамі сваёй кватэры хлопцы заключылі дагавор. Гэтых доказаў хапіла, каб не даводзіць справу да суда: турфірма па першаму іх патрабаванню выплаціла палову кошту пуцёўкі.

Таксама я парэкамендавала б турыстам захоўваць да вяртання з-за мяжы на радзіму ўсе паперкі, білецікі і талончыкі — як дакументальны доказ тых ці іншых парушэнняў дагавора.

А вось з міжнароднымі дакументамі, скажам, з пратакольнымі выпіскамі з паліцэйскіх участкаў, могуць узнікнуць складанасці: патрэбна іх легалізацыя на нашай тэрыторыі.

**— А як турысту вызначыць, ці з сур'ёзнай фірмай ён мае справу, каб адпачынак не абярнуўся для яго горкім расчараваннем?**

— Першае, на што трэба звярнуць увагу, — наяўнасць ліцэнзіі на ажыццяўленне дзейнасці ў сферы турызму. У офісе таксама павінна быць шырока прадстаўлена наглядная інфармацыя аб паслугах, якія прадастаўляюцца, і, калі яна не супадае з рэальнасцю, можна патрабаваць тлумачэнняў. Па першаму патрабаванню спажыўцу павінен прадастаўляцца прэйскурант цэн. І ўвогуле спажывец можа прыйсці ў любую турыстычную фірму і для ўласнай гарантыі заключыць больш дэталёвы дагавор, дзе б агаворваліся, напрыклад, такія дробязі, як колькасць «зорачак» у гатэлі пражывання, наяўнасць гарачай вады і інш. Калі фірма салідная — яна пойдзе на падпісанне такога дакумента, але калі вам адмаўляюць, то лепш не рызыкаваць і звярнуцца ў іншую турфірму. Іх цяпер даволі многа, ёсць з чаго выбіраць...

**Гутарку вяла**
**Надзея НІКАЛАЕВА.**

---

ЦІКАВА ЗАДУМАЦЦА, як вас называць. Жонка: Сярожа, Серж, калі «скрывіў лінію» — Сяргей ці па прозвішчу, калі настрой гуллівы — таксама па прозвішчу.

На рабоце: Сяргей Паўлавіч, Паўлавіч, Сяржук, але найбольш распаўсюджана — Сярога. Наведвальнікі называюць аднолькава: Сяргей Паўлавіч. У арміі маладыя звалі «татам».

Імя як паказчык адносінаў да цябе. Калі прааналізаваць, як вас называюць, можна вывесці нейкі сярэдні каэфіцыент узроўню і якасці ўспрымання вас людзьмі.

Праўда, я не раю гэтым займацца, калі вы не мазахіст: раптам вынік будзе адмоўны?

Магчыма, спрэчная думка — як вас называюць, такі вы і ёсць. Ці інакш — вас называюць так, як вы таго заслугоўваеце. Ці: як хочаце, каб вас называлі?

Усё будзе правільна...

* * *

Да канца стагоддзя засталося тры гады. «Канец свету» зноў стаў актуальным. Гэтак паўтараецца рэгулярна ў канцы любога стагоддзя — пагартайце спецыяльную літаратуру. Урэшце, першы раз сведчанні аб «канцы свету» абнародаваны ў Біблії.

Але канец свету ўсё не наступае.

Верагодна, спачатку ён павінен наступіць у душы, а не фізічна. Трэба думаць, колькасць дрэні, зробленай людзьмі, яшчэ не пераваліла за крытычную адзнаку. Але паказчыкі растуць...

* * *

Безумоўна, час — катэгорыя агульная, універсальная. Тым не менш, кожны народ жыве ў сваім стагоддзі. Японцы, напрыклад, ужо ў XXI.

А ў якім беларусы? І не трэба ўсміхацца...

* * *

Штодзень па тэленавінах нам паказваюць трупы. Робіцца гэта прафесіянальна і з незразумелай асалодай. Калі труп у моргу, то яго трэба паказаць голым і з кулявымі дзіркамі ў целе.

Калі забіты на вуліцы — значыць, абавязкова ў лужыне крыві.

Заканчваецца выпуск навін, у праграме — баявік. Трупаў там бывае больш за дзесятак. Гэта норма. Наяўнасць трупаў — гэта ўжо норма. Кажуць, вядучыя навін расійскіх праграм могуць не прыняць сюжэт пра забойства, калі няма «карцінкі» трупа.

Можа, дзейнічае нейкі невядомы нам закон? Напрыклад, калі людзей на зямлі становіцца занадта многа, яны перастаюць баяцца крыві. Скажам так, рэгуляцыя колькасці віду. І тое сказаць: ледзь не палова насельніцтва планеты пастаянна недаядае.

Але хто гатовы добраахвотна падставіцца пад кулю?..

* * *

Вечна спяшаешся — столькі трэба паспець! — каб вечарам падвесці рысу: зноў не паспеў.

А, здавалася б, так проста: тое, што не паспеў, табе і не трэба...

* * *

Імя для цешчы — Ганна Леапардаўна...

* * *

З брачнай аб'явы: беларуска, 1960 г. н., 35 гадоў, рост — 175, вага — 80...

Прама крыўдна стала: нарадзіліся ў адзін год, але ёй — 35, мне — 37. Добра. Цяпер буду казаць, што мне 25. Даюць, дарэчы, 33—34...

* * *

Два менталітэты: наш і амерыканскі.

Дапусцім, кракадзіл з'еў у амерыканца дзядулю. Знаёмыя і сябры яму спачуваюць так: «Мне вельмі шкада...»

У нас з такой грунтоўнай нагоды арганізуецца тэатралізаванае прадстаўленне з абавязковым галашэннем на могілках і бурная працяглая п'янка, пад канец якой забываюць пра дзядулю і кракадзіла.

Амерыканец падае з 10 паверха. Калі ён з пераламанымі касцямі і адбітымі вантробамі адкрывае вочы, можна сказаць, у апошні раз, яго далікатна пытаюць: «Містэр, вы ў парадку?»

У нас тое ж, што і ў першы раз.

І я не ведаю, што лепш: амерыканскі прагматызм ці наша шырокая душа, за якой часта нічога канкрэтнага не праглядваецца. Апрача шырыні...

* * *

*«И сладкозвучный соловей*
*Пел днями песню из кустов*
*«Цвети, о Грузия моя!*
*Пусть мир царит в родном краю*
*А вы учебою, друзья,*
*Прославьте Родину свою!»*

Аўтар вершыка шырока вядомы ў свеце: Сасела, ён жа Коба, ён жа Джугашвілі, ён жа Сталін І. В.

А вось яшчэ: «В Шуше, у подножья Саяна...» Далей у паэта закалодзіла, і ён да канца жыцця займаўся пераважна прозай. Напрыклад: «У Ніжнім яўна рыхтуецца белагвардзейскае паўстанне. Трэба напружыць усе сілы, навесці зараз жа масавы тэрор, расстраляць і вывезці сотні прастытутак, якія спойваюць салдатаў, былых афіцэраў і да т. п.»

Альбо: «Расстрэльваць, нікога не пытаючы і не дапускаючы валакіты». Альбо: «Трэба заахвоціць энергію і масавіднасць тэрору».

*«Смело вперед! Разорвите оковы,*
*Сбросьте кровавые цепи царей,*
*Юным порывом, огнистой волною*
*К новому счастью — смелей!»* — гэта ўжо юны Леанід Ільіч.

*«Мы бренны в этом мире под луной.*
*Жизнь — только миг, небытие — навеки.*
*Кружится во Вселенной шар земной.*
*Живут и исчезают человеки,»* — зразумела, каму, як не былому шэфу КДБ Юрыю Уладзіміравічу лепш за іншых гэта ведаць. У сэнсе, як «исчезают человеки».

Заўсёды неяк падазрона, калі правадыр піша вершыкі. Я штосьці баюся новых паэтычных імён у сферы палітыкі. Мне даспадобы старыя. Вось, напрыклад:

*«Поверь, ничтожество есть благо*
*в здешнем свете.*
*К чему высокие познанья, жажда славы,*
*Талант и пылкая любовь свободы,*
*Когда мы их употребить не можем?..»*

Так пісаў 167 гадоў назад другі юны паэт. Яму тады было 15 і звалі яго Міхаіл Лермантаў. Цяжка з ім не пагадзіцца: у некаторыя часіны «ничтожество есть благо»...

* * *

Год назад, бібліятэка імя Талстога. Ля ўваходу кураць дзве дзяўчыны, як прынята зараз гаварыць, «адвязаныя». Разважаюць на літаратурныя тэмы.

— Танька, чым «Ганна Карэніна» скончылася?

— А ... ведае.

— Хтосьці казаў — пад цягнік скокнула?

— Ну і мудачка...

Я б не паверыў, але сам чуў. Потым мы разам здавалі кніжкі: аказалася, дзяўчаты з педінстытута.

Помню, пачырванеў тады. Мне стала за іх сорамна. Дзіўны час: чырванець прыходзіцца за іншых часцей, чым за сябе. Гэта, думаю, яшчэ нічога. Горш, калі чырванець не будзе каму...

* * *

У нашым доме жыве певень. Цяпер абыходзімся без будзільніка. Бывае, гуляеш з сабакам ранкам ці ўвечары — спявае. Першы раз пачуў — ледзь не паслізнуўся, так нечакана свежа прагучала.

Цяпер пачую і думаю: «Як ён там без курыцы?»

* * *

«Ну, няхай яны мяне прызнаюць. Але гэта ўсё роўна што Кубу прызналі Гаяна, Ямайка, Трынідад і Табага». Венічка Ерафееў. Сучасна як гучыць.

* * *

Я нядаўна «неўзлюбіў» аднаго вядучага з ГРТ. Ён у інтэрв'ю сказаў — «праплаціць». З той жа оперы — «прazваніць». А ад выразу — «па жыцці» — пачынае дробна-дробна трэсці.

Зрэшты, калі можна сказаць, што «беларусы будуць жыць цяжка, але нядоўга», то чаму «праплаціць» няправільна?

Магчыма, я памыляюся і гэта дробязь? Тады чаму Сталін у апошнія гады жыцця пачаў пісаць працу «Пытанні мовазнаўства»? Пры ўсіх, мякка кажучы, недахопах ён быў чалавек разумны.

Яшчэ раз, для самых непісьменных: трэба пісаць і гаварыць — аплаціць, пазваніць, у жыцці...

* * *

Нядаўна пазваніла жанчына. У яе ў свой час здарылася бяда. Падчас уборкі ўраджаю загінуў муж, у яго была хвароба мозгу, упаў, разбіў галаву. У стане амаль непрытомнасці яго ганялі па паверхах бальніцы. Урэшце ён памёр.

Жанчына засталася адна з двума дзецьмі, адзін сын — інвалід, і ніякай дапамогі ні з якога боку. Быў мой матэрыял. І вось яна пазваніла. Жыццё карэнным чынам змянілася, і, здаецца, усе праблемы вырашаны.

Зусім не лічу, што чымсьці дапамог. Пішаш і думаеш, як бы не нашкодзіць больш. Але тут усё добра. І што можа быць лепш? Самы каштоўны падарунак.

Чалавеку часцей трэба проста спачуванне. Проста, каб выслухалі. Мала дзе зараз слухаюць. Мо пераважна аднаго чалавека...

**Сяргей ШАЎЦОЎ.**

---

*ПАНОПТЫКУМ*

# ПАПЯРЭДНІЯ ВЫНІКІ ПАД НОВЫ ГОД

**На 1 студзеня 1997 года ваш карэспандэнт пражыве 13 тысяч 396 дзён. Што наводзіць на пэўны роздум.**

**Напрыклад: нельга сказаць — ён пражыў у сярэднім 65 гадоў. Поўная бязглуздзіца. Жыццё і смерць — гэта заўсёды канкрэтна і выключна інтымна. Тым больш вашы асабістыя.**

**Чалавек спакойна ўспрымае інфармацыю тыпу «сярэдняя працягласць жыцця насельніцтва гэтай краіны складае 71,3 года». Але нават неразумнае дзіця на пытанне «Колькі табе годзікаў?» старанна паказвае пальчыкі — тры, чатыры.**

**Так, дзякуй Богу, будзе заўсёды. Гады чалавека — гэта толькі яго гады. А не, скажам, гады яго начальніка. Строга асабісты інтарэс...**

## Эдуард ЗАРЫЦКІ:
# «АДСУТНАСЦЬ НЯШЧАСЦЯ — УЖО ШЧАСЦЕ»

**Вечныя спадарожнікі гэтага кампазітара — натхненне і жыццярадасная ўсмешка.**

**Дзякуючы прыроджанаму пачуццю гумару, самыя вясёлыя гады жыцця ён прысвяціў тэлегульні КВЗ у саставе беларускай каманды, дзе пісаў-наігрываў свае гарэзлівыя мелодыі, акрамя таго, будучы студэнтам музвучылішча, а ў далейшым — кансерваторыі, прайшоў вялікую прафесіянальную школу, зарабляючы ў рэстаранах і на вяселлях.**

**— Як я зразумела, Эдуард Барысавіч, — быў бы талент і інструмент, а прычына заўсёды знойдзецца?.. Дарэчы, на чым вы ігралі — не на скрыпцы, выпадкова?**

— Вядома, не! Са скрыпкай звязаны самыя страшныя дні майго жыцця. Калі я быў першакласнікам, я ўзяў у рукі гэты страшны інструмент, і, намуліўшы падбародак і пальцы, плакаў, выціраючы слёзы смычком...



Але аднойчы ў Мінск, у Дом афіцэраў, прыехаў кампазітар з сусветным імем, народны артыст СССР Давід Ойстрах — і бацькі павялі мяне (таксама скрыпача) на канцэрт. Я слухаў, слухаў, ды і выдаў: «Падумаеш, я ж таксама так умею, як Ойстрах!» На што мама адказала: «Так, як «вой, страх!» ты іграеш...»

Хутка, пры першым зручным выпадку, я сказаў бацькам прыкладна наступнае: «Разбіце скрыпку аб маю галаву — але я больш на ёй не зраблю ніводнага скрыпу...» Яны пашкадавалі мяне — і ў выніку я браў у рукі скрыпку толькі два разы ў жыцці: першы і апошні. Мяне пачалі вучыць іграць на фартэпьяна, акардэоне... А скрыпка, быццам накрыўка шкатулкі з адкрываемай задняй сценкай, да гэтага часу захоўваецца... у маім гаражы.

Ну, а што датычыць вяселляў — з імі я даўно «завязаў».

**— З таго часу, калі адной цудоўнай раніцай прачнуліся вядомым?**

— У рангу кампазітара, які ўступіў у прафесіянальны саюз, я адыграў на вяселлі адзін толькі раз — калі вярнуўся з арміі. Незабыўны эпізод з гэтага вяселля я памятаю да гэтага часу... Там ігралі музыканты, якія былі ўдвая старэй за мяне, але з гумарам у іх было цяжка. А я і пажартаваў: «Хлопцы, разумееце, я цяпер прафесіянальны кампазітар, і мне трэба плаціць больш». Сказаў я гэта проста так, але праз нейкі час, калі пачаўся падлік і дзяльба грошай, я выпадкова пачуў: «Гэтага мярзотніка больш не бяром — ён нас распране...»

А калі гаварыць аб папулярнасці — да яе чалавек ідзе маленькімі крокамі — і то пры ўмове, што не заблудзіцца ў трох соснах: ляноце, зазнайстве і карысці.

Асабіста я заўсёды вельмі старанна адпрацоўваў свае не лепшыя песні, ні ў якім разе не дапускаючы іх у эфір: дастаткова лыжкі дзёгцю ў бочцы добрых песень — і гэта спрацуе супраць аўтара.

**— Да творчасці вашай дачкі Ліны — маладой спявачкі, студэнткі музычнага факультэта педагагічнага універсітэта — вы падыходзіце таксама строга?**

— Прынцып той жа: лепш менш, ды лепш. Пакуль мы запісалі для эфіру толькі тры-чатыры песні ў выкананні Ліны, апошняя з іх — «Белая поўнач» — на яе ўласныя вершы... Можна сказаць, тунель пад Ла-Маншам і то хутчэй пракапалі, чым мы выпускаем песні ў «вялікае плаванне»... Але праблемы ў нас не столькі творчыя, колькі тэхнічныя, звязаныя з адсутнасцю ўласнай студыі гуказапісу, са стварэннем аранжыровак...

**— Але ўсё ж дзякуючы таму, што ў Ліны Зарыцкай такі таленавіты тата, ёй лягчэй будзе знайсці месца пад сонцам — дакладней, пад скрыпічным ключом?**

— Вось гэта складанае пытанне... Па праўдзе кажучы, з аднаго боку, вядома, лягчэй — колькі ж маладых, таленавітых, спяваючых дзяўчынак нават не ведае, «з якога боку» ім падысці да радыё... А Ліна, дзякуючы таму, што ў наш дом пастаянна прыходзілі спевакі — рэпетыравалі, сустракаліся, — убірала ў сябе ўсю карысную інфармацыю. Да прыкладу, я вельмі многа і плённа супрацоўнічаў з Яраславам Еўдакімавым... Характэрна, што ён, зрабіўшы запіс чарговай новай песні, заўсёды заставаўся нездаволеным — пакуль не знойдзе недахопы і не перапіша твор нанава. Можна сказаць, што Ліна пераняла ў яго гэту добрую рысу...

Але, з другога боку, дзецям больш-менш вядомых людзей цяжэй зрабіць кар'еру — на іх глядзяць асабліва пільна... Мяркую, бацька павінен захоўваць меру, каб у першую чаргу не нашкодзіць свайму дзіцяці. Калі дочкі-сыночкі будуць гучаць у эфіры з раніцы да вечара — такое не даруецца ні калегамі, ні проста «добразычліўцамі»...

Я думаю, у Ліны будзе свой шлях у жыцці — і дай Бог ёй поспеху ў наш цяжкі час.

**— Дзякуючы адукацыі Ліна пры жаданні можа працаваць выкладчыкам. Ну, а калі зазірнуць у недалёкае мінулае, у вас, Эдуард Барысавіч, калі-небудзь узнікалі праблемы, звязаныя з яе выхаваннем?**

— Мне вельмі пашанцавала: праблем, можна сказаць, ніякіх не было. Да чатырнаццаці гадоў дачка жыла ў Расіі і выхоўвалася ў бабулі, якая прывіла ёй многія добрыя якасці. Калі Ліна пераехала да нас, карэкціраваць амаль нічога не давялося: яна і вучыцца добра, і ўсё, за што ні возьмецца, у яе нармальна атрымліваецца...

**— Такім чынам, ваша жонка Таццяна радуецца не нарадуецца і на вас, і на дачку?**

— Ва ўсякім разе, мною яна ўжо нарадавалася і не захапляецца: за доўгія гады сямейнага жыцця ў жонкі склалася ўражанне, што музыка, якую я пішу, «пішацца сама па сабе» — амаль без майго ўдзелу...

Часам Таццяна ўпершыню чуе мае новыя творы ўжо па тэлебачанні, радыё... Дарэчы, на аўтарскім канцэрце ў рамках фестывалю беларускай песні і паэзіі «Маладзечна-96» у ліку дваццаці трох маіх песень у выкананні ўсіх салістаў аркестра Фінберга гучала нямала вядомых песень мінулых гадоў...

**— Ну і апошняе, Эдуард Барысавіч, глабальнае пытанне: што для вас шчасце?**

— Гэта — кароткае імгненне паміж двума няшчасцямі... А ўвогуле, адсутнасць няшчасця — ужо шчасце...

**Гутарыла Алена КЛІМЕНКА.**
**Фота Генадзя ЛАХТАНАВА.**

## ЗА МАРАЙ — У ГЕРМАНІЮ

**«Палац» з'ездзіў на фестываль у Германію. Прычым нашы музыкі прымусілі немцаў слухаць не толькі беларускія песні, але і лекцыю пра багаты фальклор нашай зямлі. З'ездзілі добра.**



І прыехалі не вельмі блага, калі не браць пад увагу падарожныя прыгоды саліста «Палаца» Алега Хаменкі. Справа ў тым, што вырашыў Алег прыехаць з Германіі на ўласным аўто. Пашчасціць жа некаторым — падумаеце вы — і за мяжу з'ездзяць, і машыну купяць! Не спяшайцеся так думаць, бо зайздрасць — адзін са смяротных грахоў.

Машыну Алег сапраўдны выбраў. Знайшлі хлопцы аднаго гаспадара, які прапанаваў патрыманыя аўто, але за невялікія, нават па нашых мерках, грошы. Спыніліся на «Вольва». Прыгожая машына, выглядае няблага. Карацей, разлічыліся, паехалі. І тут прыгажуня пачала рассейваць ілюзіі наконт добрай язды. Заставаўся толькі адзін дзень да заканчэння візы, часу на належны рамонт мала. Што рабіць? Трохі падладзілі і паехалі дадому.

Напэўна, ніколі дарога дадому для Алега Хаменкі не была такой доўгай. Машына спынялася на аўтабане 10 разоў, за ёй тут жа выстройваўся караван іншых машын, якія некуды спяшаліся і нецярпліва сігналілі ззаду.

Неўзабаве дакацілі да роднай Брэсцкай мытні. Дык мала таго, тут яшчэ і рэкет «прыціснуў», прыйшлося таксама заплаціць.

Стаіць зараз «Вольва» (яна крыху старэй за перабудову) пад вокнамі дома, дзе жыве Алег, і цярпліва чакае, калі клапатлівыя рукі гаспадара возьмуцца за рамонт.

Застаецца дадаць, што на «маладзейшую» ды больш шпаркую «тачку» Алег Хаменка не спадзяваўся зарабіць у хуткім часе. Жыццё ў беларускім шоу-бізнесе амаль спынілася. Ды і гэты набытак стаў магчымы толькі дзякуючы сябрам Алега, якія пакуль не патрабуюць хутка вярнуць доўг.

Карацей, не май сто рублёў, а май сто сяброў. Калі так, то, магчыма, у «Палаца» неўзабаве з'явіцца свой аўтапарк.

**Ларыса ЦІМОШЫК.**

## «БЛЮЗ ЖЫВЕ Ў МІНСКУ»

**Вы, вядома, можаце здзівіцца: як, у Мінску яшчэ жыве добрая музыка? Блюз — ён такі, перажыве каго заўгодна. 20-21 снежня ў кінатэатры «Масква» музыкі збяруцца і дакажуць гэта ўжо ў другі раз.**

Першая спроба была летам, калі пад сцягам «Star-cluba» сабралася неблагая кампанія і зрабіла блюзавы фестываль, даказала, што затым могуць адбыцца другая, трэцяя спроба — і так да бясконцасці. Але спынімся на другой, самай актуальнай. У гэтыя дні ў кінатэатры «Масква» сабраліся гурты з Расіі, самыя лепшыя з Беларусі, Польшчы, Літвы. А гэта ўжо гаворыць пра імкненне да інтэрнацыянальнасці — шляхам павагі таго, што маем мы, і таго, што маюць тваё суседзі.

Магчыма, для «Star-cluba», які існуе ў Мінску каля двух гадоў, гэта сапраўды пік: бо адна справа — сабрацца два разы на месяц і паіграць адзін перад адным, і зусім іншае — глядзець, што робяць суседзі, і імкнуцца зрабіць лепей. Не ведаю, як іншыя, але падобна, што прэзідэнт «Star-club» Генадзь Старыкаў, які сам у мінулым музыкант, дасягнуў піку сваёй папулярнасці.

Калі ж узяць пад увагу, што спансіраваць мерапрыемства ўзялася кампанія «Філіп Морыс», то можна ўявіць, што музыканты дадуць усім «прыкурыць».

## ЯК ПАМІРЫЎСЯ МІХАІЛ ЯКАЎЛЕВІЧ З ЭДУАРДАМ СЯМЁНАВІЧАМ

**Гісторыя гэтая пачалася яшчэ летам, калі планаваўся сумесны творчы вечар Э. Ханка і Э. Зарыцкага на фестывалі «Маладзечна-96».**

Публіка да апошняга чакала, што так і будзе. Але выйшаў на сцэну Эдуард Сямёнавіч з акардэончыкам і ветліва саступіў месца свайму калегу Зарыцкаму. Гэта было падобна на своеасаблівы дэмарш — бо музыканты канцэртнага аркестра ўсё ж рыхтавалі песні Ханка. Але славутаму кампазітару быццам бы не спадабалася тады, што канцэрт пойдзе без перапынку, у адным аддзяленні.

А як распазнаць, хто з Эдуардаў болей спадабаўся слухачам? І ўсё ж такі тады прайшлі чуткі, што быццам бы на самай справе Ханок пакрыўдзіўся на Фінберга з-за таго, што той браў у канцэрт толькі песні на беларускай мове. І ніяк не згаджаўся на рускія, няхай і вядомыя. Фестываль жа — беларускі.

Словы Эдуарда Ханка (пакрыўджанага) «брацкая магіла», сказаныя пра аркестр Фінберга, балюча закранулі бацьку аркестра. «Гэта ў нас «магільнік?» — абураўся дырыжор, — ды мы столькі праграм падымаем! І працуем перш за ўсё на праграму, каб менавіта яна цалкам прагучала, а не якое-небудзь адно імя».

Тым не менш, у канцы года, калі ўжо адбыўся творчы вечар Эдуарда Ханка (зроблены ўласнымі намаганнямі), ён прыйшоў да Фінберга з прапановай новага канцэрта, дзе ханкоўскія песні будуць гучаць толькі ў выкананні салістаў Дзяржаўнага канцэртнага аркестра.

Пры гэтым ужо народны кампазітар Эдуард Сямёнавіч 17 снежня прасіў прабачэння за свае дзеянні са словамі: «Я Мішу люблю, таму што ён сапраўдны музыкант».

Ды не толькі музыкант, і арганізатар добры. Бо аркестр, як ні круці, сам па сабе зроблены добра. Тут і музыканты, і спевакі, і сцэна гатовая — хоць зараз едзь і выступай. Што, дарэчы, і плануецца: да дзесяцігоддзя Дзяржаўнага канцэртнага аркестра будзе гастрольны тур па 12 гарадах Беларусі. Гэта быццам бы замест фестывалю беларускай песні і паэзіі. Дзесяцігоддзе — прыемная рэч. Таму што ўсе імкнуцца засведчыць сваё захапленне аркестрам. Напрыклад, зусім нядаўна ў якасці вельмі дарагога падарунка Дзяржаўны канцэртны аркестр атрымаў самае сучаснае асвятляльнае абсталяванне. На Беларусі такога яшчэ не было. І зараз аркестр будзе іграць любыя канцэрты ў самым файным для сябе святле. А падарунак — будзем лічыць, што ад Дзеда Мароза. Бо надта дарагі па нашых днях.

**Ларыса ЦІМОШЫК.**

### АНТАЛОГІЯ БЕЛАРУСКАЙ ПЕСНІ

# ДЗЕ Б Я НІ ЕХАЛА, ДЗЕ Б Я НІ ЙШЛА

**Калі наступае тое імгненне, якое іскрай асвятляе ў памяці пройдзены шлях і запальвае жаданне выказаць шчырыя словы падзякі ўсёй прасторы за сваю прысутнасць у ёй?!. Звычайна нам, да болю знітаваным па драбязе з рэчаіснасцю, не хапае часу на роздум-асэнсаванне. І ў песні «Дзе б я ні ехала, дзе б я ні йшла» гэты момант расцягнуты ў часе. Аднак у ёй настойліва паўтараецца патрабаванне: паўсюдна быць удзячным за сваё існаванне ўсім, хто побач з табою. З агнявой вясёласцю выконвае гэтую песню ансамбль народнай музыкі «Бяседа» Белтэлерадыё.**

У іншым рытме спявае песню народны фальклорны тэатр «Матуліна песня» Верцялішкаўскага Дома культуры (Гродзенскі раён). Кіраўнік тэатра Тэрэса Адамовіч запісала гэты твор у 1981 годзе ад Серафімы Іванаўны Багдзевіч (1910 г. н.) у вёсцы Танявічы Шчучынскага раёна.

Песня гучыць урачыста, як своеасаблівы гімн, і тужліва. Тэкст блізкі да распаўсюджанага варыянту; пры звароце да сямейнікаў падтрымліваецца традыцыйная іерархія.

*Як бы я ні ехала, як бы я ні йшла,*
*А я свайму тату пакланялася.*
*Кланяюсь табе, тата, што была ў цябе багата.*
*Больш не буду, не буду.*

*Як бы я ні ехала, як бы я ні йшла,*
*А я сваёй мамачцы пакланялася.*
*Кланяюсь табе, мама, што была ў цябе прыбрана.*
*Больш не буду, не буду.*

*Як бы я ні ехала, як бы я ні йшла,*
*А я сваёй сястрыцы пакланялася.*
*Кланяюсь табе, сестру,*
*што вучыла плесці косу.*

*Больш не будзеш, не будзеш.*
*Як бы я ні ехала, як бы я ні йшла,*
*А я свайму брацiку пакланялася.*
*Кланяюсь табе, браце, што жылі мы дружна ў хаце,*
*Больш не будзем, не будзем.*

*Як бы я ні ехала, як бы я ні йшла,*
*А я сваёй вішаньцы пакланялася.*
*Кланяюсь табе, вішня, дзе стаялі хлопцы лішні.*
*Больш не стаяць, не стаяць.*

*Як бы я ні ехала, як бы я ні йшла,*
*Я сваім парожанькам пакланялася.*
*Кланяюсь вам парогі, дзе стаялі босы ногі*
*Больш не стаяць, не стаяць.*

Вытлумачэнне такому зместу і спеву песні даюць пачатковыя радкі яе варыянта, што бытуе на Капыльшчыне:

*Калі выхадзіла, калі замуж йшла...*

Песня ўспрымаецца як вясельная, абрадавая. Перад вынасам пасагу маладая развітваецца з роднымі. Ужо ў новай іпастасі яна прыйдзе на парог роднай хаты, дзе яшчэ нядаўна ступала басанож. А калі ёй расплятуць касу ў шлюбную ноч, то парвуцца нябачныя ніці, што звязвалі з маленствам, маладосцю. Тады прыгадаецца і вішанька, што раней радавала белай квеценню і спелымі ягадамі, а пазней — думы і клопаты, як у той песні «Зялёная вішня».

Вось у момант развітання з роднай хатай на духоўна-пачуццёвым узроўні асвятляецца пражыты час. Таму і акцэнт у гэтым варыянце крыху іншы: як бы ні склаўся далейшы асабісты лёс, трэба ў розных варунках заўсёды з цеплынёй і павагай успрымаць людзей і ўспамінаць пра іх...

Гудзе вяселле (вяселле ёсць вяселле!) — іграюць музыкі, звіняць песні, віруе дух маладосці. У гэтым плане пераклікаюцца між сабою песні «Дзе б я ні ехала, дзе б я ні йшла» і «Ой, мяцеліца» А. Дзяржынскага і М. Шуміліна.

Але на вяселлі разбураюцца адны сувязі, нараджаюцца новыя — і ўжо гучыць у іншым рытме музыка...

Тэкст песні падаецца з рэпертуару ансамбля «Бяседа», мелодыя — фальклорнага тэатра «Матуліна песня».

**Міхась ШАВЫРКІН.**




### ДЗЕ Б Я НІ ЕХАЛА, ДЗЕ Б Я НІ ЙШЛА

**Словы і музыка народныя**

Дзе б я ні ехала,
Дзе б я ні йшла —
Я ж табе, мама, не дзякавала.
Дзякую табе, мама
Што будзіла мяне рана. (2 разы) } **2 разы**

Дзе б я ні ехала,
Дзе б я ні йшла —
Я ж табе, тата, не дзякавала.
Дзякую табе, тата,
За тваю вясёлу хату. (2 разы) } **2 разы**

Дзе б я ні ехала,
Дзе б я ні йшла —
Я ж вам, парогі, не дзякавала.
Дзякую вам, парогі
Дзе збівалі хлопцы ногі. (2 разы) } **2 разы**

Дзе б я ні ехала,
Дзе б я ні йшла —
Я ж вам, вароты, не дзякавала.
Дзякую вам, вароты,
Дзе стаяла хлопцаў рота. (2 разы) } **2 разы**

Дзе б я ні ехала,
Дзе б я ні йшла —
Я ж вам, таполі, не дзякавала,
Дзякую вам, таполі,
Нагулялася даволі. (2 разы) } **2 разы**

## СУБОТНІМ ВЕЧАРАМ

# КРЫЖАВАНКА



**Па гарызанталях:** 1. У ткацкай справе: папярочныя ніткі ў перапляценні тканіны. 3. У архітэктуры: ніжняя, больш шырокая частка калоны або слупа. 5. Пасажырская машына. 8. Зярняты трапічнай расліны — кафейнага дрэва. 10. Паўднёвае вечназялёнае дрэва. 12. Аўтар пісьма, які не падпісаў свайго імя. 13. Лёгкае збудаванне з галля або саломы. 14. Звод правіл, палажэнняў. 15. Апора на даху. 17. Прыстасаванне для запрагання рагатай жывёлы. 21. Нізкі жаночы або дзіцячы голас. 22. Спецыяліст па хваробах вачэй. 24. Акружэнне сіл праціўніка для знішчэння або паланення. 27. Няправільная арганізацыя працы, пры якой адсутнічае персанальная адказнасць. 29. Сукупнасць органаў, якія выконваюць пэўную функцыю арганізма. 32. Пачцівы зварот да заможных мужчын у Англіі. 33. Асабліва меткі стралок. 35. Трохскладовая вершаваная стапа. 36. Выгук з просьбай да акцёра паўтарыць нумар. 37. Літара ў грэчаскім алфавіце. 39. У панскай Польшчы: орган паліцэйскага нагляду. 42. Рысы, выраз твару. 45. Перадавік у нейкай справе, рабоце. 49. Хімічны элемент, мяккі коўкі метал. 50. Затрымка руху там, дзе сабралася шмат людзей, тэхнікі. 51. Паўсядзённае жыццё з ўстаноўленымі правіламі, звычаямі. 52. Расцягнутая акружнасць. 53. Доўгая фраза ці частка прамовы, якая вымаўляецца прыўзнятым тонам. 56. У граматыцы: інтанацыйнае і сэнсавае выдзяленне дадаеных членаў сказа. 57. Падліковы аддзел ва ўстанове, на прадпрыемстве. 61. Зводная ведамасць. 62. Дрыжыкі ў целе пры захворванні. 63. Двухскладовая вершаваная стапа. 64. Поле, засеянае кавунамі, дынямі. 66. Хвастатая земнаводная жывёла. 69. Вынік працы чалавека. 71. Белы слой бярозавай кары. 73. Зборнік мастацкіх твораў розных аўтараў. 75. Плецены раменны бізун. 76. Ніз, паверхня зямлі, падлога. 79. Невялікая пасудзіна, у якую набіраюць ваду на дарогу. 80. Высокі жаночы голас. 82. Апытальны ліст для атрымання пэўных звестак. 83. Каштоўны камень блакітнага або зеленаватага колеру. 86. Металічны каўпачок, які надзяваецца на палец. 91. Хімічны элемент. 92. Паўтарэнне слова або гуку ў пачатку некалькіх вершаваных радкоў. 93. Светлая пляма, водбліск на цёмнай паверхні. 95. Адзнака ў пашпарце, як дазвол на ўезд у іншую краіну. 97. Прывілеяваны воін у Султанскай Турцыі. 98. Вышэйшая мэта, да якой імкнецца чалавек. 99. Мусульманскі вандроўны манах. 100. Скораснае плоскадоннае маторнае судна. 101. Аблямоўка па краях і па швах у адзенні. 102. Вялікі танцавальны вечар. 103. Галіна гаспадаркі, звязаная з перавозкай людзей і грузаў. 104. Верхняя частка пасудзіны, накрыўка. 105. Цвёрды мінерал са слаямі рознай афарбоўкі.

**Па вертыкалях:** 1. Аб'яднанне, саюз. 2. Бадай самае масавае відовішча. 4. Вугал паміж зададзеным напрамкам і напрамкам на поўнач. 6. Бурныя, працяглыя апладысменты. 7. Член узброенай групоўкі ў Сярэдняй Азіі. 9. У старажытных рымлян: іншаземец. 10. Баявы парадак конніцы для адначасовай атакі з флангаў і з тылу. 11. У абутку: палоска скуры вакол передоў, да якой прышываецца падэшва. 12. Выбуховае рэчыва, што выкарыстоўваецца ў ваеннай і горнай справе. 16. Кніга або сшытак для фотакартак, малюнкаў, вершаў. 18. Глыбокае месца ў вадзе з імклівым цячэннем. 19. Падман зроку, слыху, нюху. 20. Багач, кулак у старой Сярэдняй Азіі. 22. Знадворная дзверка на акне. 23. Рухомая міна ў вадзе. 24. Часовае збудаванне для выступлення артыстаў (стар.). 25. Лётчык (стар.). 26. У музыцы: паслядоўны рад гукаў у межах адной актавы. 28. Свіное нутраное сала. 30. Прыпыненне жыццядзейнасці арганізма да вяртання спрыяльных умоў. 31. Паўтарэнне ў вершы аднолькавых або падобных галосных гукаў. 34. Сугучнасць канцоў вершаваных радкоў. 35. Непрыемнае, гадлівае пачуццё. 38. Насілле, здзек. 40. Колькасць экземпляраў выдання. 41. Верхавод, зачыншчык. 43. Паляўнічы, які прамышляе ў недазволеным месцы. 44. Наведвальнік бібліятэкі. 46. Панаванне ў краіне невялікай групы прыгнятальнікаў-багацеяў. 47. Агульна прызнанае значэнне, уплыў. 48. Войска, арганізаванае з добраахвотнікаў. 54. Чырвона-жоўтая фарба расліннага паходжання для афарбоўкі валасоў. 55. Будаўнічы камень. 58. Лішні клопат, непрыемны абавязак. 59. Лячэбніца, куды хворыя прыходзяць па дапамогу. 60. Спалучэнне націскных і ненаціскных складоў у вершаваным радку. 62. Спадніца з саматканага палатна. 65. Асобная жывая істота, якая існуе самастойна. 67. Скручаны лазовы або бярозавы дубец. 68. У старажытных грэкаў: казачны крылаты конь. 69. Планка, якая закрывае шчыліну паміж сцяной і падлогай. 70. Мука з ачышчанага пражанага аўса. 71. Становішча, пры якім ніхто нікому не пагражае. 72. Мясціны, блізкія да населенага пункта. 74. Выпуклая замкнёная крывая лінія без выпуклых пунктаў. 77. Прадмет, збудаванне велізарных памераў. 78. Зручны выпадак для якой-небудзь справы. 81. Трос, на якім адно судна цягне другое. 84. Буйны атрад ваенных караблёў або самалётаў. 85. Рака, якая ўпадае ў Карскае мора. 87. Пачцівыя адносіны. 88. Калектыўная дапамога пры выкананні сельгасработ. 89. Заразная хвароба коней. 90. Суконны галаўны ўбор з доўгімі вушамі. 93. Аб'яданне дзяржаў, партый для дасягення агульных мэт. 94. Стужка, шнурок для гарэння ў свечках. 95. Высокае і вузкае архітэктурнае збудаванне. 96. Хімічны элемент, газ.

**Склаў Уладзімір ВАШУТА.**

*г. Слонім.*

## ПРАВЕРЦЕ, КАЛІ ЛАСКА, АДКАЗЫ

**КРЫЖАВАНКА (14 снежня). Па гарызанталях і вертыкалях:** 1. Зарынь. 2. Зінін. 3. Заціркa. 4. Здрада. 5. Замбія. 6. Засада. 7. Зародак. 8. Зыслаў. 9. Зізаній. 10. Заімка. 11. Зыкіна. 12. Здымак. 13. Зорка. 14. Захараў. 15. Завея. 16. Запеў. 17. Земства. 18. Захад. 19. «Загай». 20. Засецкі. 21. Залог. 22. Завод. 23. Запавет. 24. Залессе. 25. Заграб. 26. Задатак. 27. Знахар. 28. Загавор. 29. Забой. 30. «Званы». 31. Зарадка. 32. Заячар. 33. Загар. 34. «Залёты». 35. Зайсан. 36. Закон. 37. Зайцаў. 38. Зарасай. 39. Затакт. 40. «Золата».

**ХОДАМ ШАХМАТНАГА КАНЯ (14 снежня).** Прымаўкі чытаюцца такія: «Свой час ягадзе, свой час баравіку», «Будзе пара, вырасце трава», «Парою сена косяць».

**КРЫПТАГРАМА (14 снежня).** Ключавыя словы ў ёй: мурашнік, стайня, педагог. А зашыфраваная прымаўка такая: «Не капай яму другому — сам у яе трапіш».

**МІНІ-КРЫЖАВАНКА (14 снежня).** Па перыметру: 1. Абуза. 2. Ажына. 3. Амега. 4. Амёба. 5. «Атака». 6. Афіша. 7. Атоса. 8. Асоба. Да цэнтра: 1. Абшар. 2. Азгур. 3. Аўтар. 4. «Анчар». 5. Анагр. 6. Ампір. 7. Акцёр. 8. Айвар.

## ВІНШАВАННІ

*Віншуем любую матулю, жонку і бабулю Браніславу Вітольдаўну Селянінаву з в. Каласоўшчына з 70-годдзем. Жадаем доўгіх гадоў жыцця, бадзёрасці і дабрабыту.*

**Муж, дзеці, унукі.**

*Віншуем дарагую ўнучку Наталлю Ціцінову з Бешанковіч з днём нараджэння. Жадаем моцнага здароўя, шчаслівага дзяцінства!*

**Дзядуля Яўген, бабуля Ганна, прабабуля Паша з Хойнікаў.**

*Віншуем з днём нараджэння любага нам Сяргея Валавода. Жадаем здароўя, шчасця, дабра і спакою.*

**Маці, жонка, брат, сын з в. Савічы Калінкавіцкага раёна.**

*Любую ўнучку Волечку Бярковіч віншуем з днём нараджэння. Жадаем моцнага здароўя, шчасця, расці вялікай і разумнай дзяўчынкай.*

**Бабуля і дзядуля з в. Сваяцічы.**

*Віншуем з днём нараджэння Марыю Аляксандраўну Сяргееву. Жадаем шчасця, здароўя, даўгалецця.*

**Сыны Аляксандр і Аляксей, г. Слонім.**

## 36,6°

# ЖОНКІ, ЖЫЦЦЁ МУЖОЎ У ВАШЫХ РУКАХ

**«Любы, што ты хочаш з'есці?» — так пытаецца жанчына раніцай, днём і вечарам. І любы заказвае новыя і новыя стравы. А стараннем жонкі няма мяжы. Жанчына можа гатаваць смачна, апетытна... А мужчына? Паеў — і на канапу, хутчэй да тэлевізара і газеты. А там, глядзіш, яго, бедака, ужо і сон змарыў. А на кухні цячэ кран. У спальні сыплецца пабелка са столі. У шафе адвальваюцца дзвярныя ручкі...**

І гэтак паўтараецца кожны дзень. Вынік бачны ў люстэрку. Паўната, якую мы зарабляем сваёй лянотай, ніколі не была паказчыкам здароўя.

Поўныя, тлустыя людзі часцей падвяргаюцца прастудам, гіпертанічнай хваробе, ішэмічнай хваробе сэрца. Добрая, на першы погляд, справа абарочваецца трагедыяй. Так што, дарагія жанчыны, не прымушайце мужчын многа есці — разам вы зробіце крок да бездані. Чалавек з-за сваёй нястрыманасці ў ежы і напоях памірае, не пражыўшы і паловы тэрміну, адпушчанага яму.

«Трушком ад інфаркту!» — гэты лозунг своечасовы і цяпер. Нашы мужчыны вядуць малярухомы лад жыцця: любяць тэлевізар, любяць газеты, любяць сон і зусім забылі пра фізічную культуру. І таму пры нейкіх стрэсах адбываецца «зрыў». Людзі, якія не выконваюць рэгулярна фізічных практыкаванняў, маюць слабы жыццёвы тонус. Рух — гэта жыццё! Займаючыся фізічнымі практыкаваннямі, рухаючыся (на зарадцы, на прагулцы), мы нармалізуем крывяны ціск, устанаўліваем здаровы пульс. Практыкаванні засцерагаюць крывяное рэчышча ад закупоркі.

Нашы мужчыны лічаць адпачынкам сядзенне за сталом і пацягванне якога-небудзь моцнага «стымулятару», але гэта толькі больш напружвае стомленыя нервы. Адпачынак павінен быць заробленым. Частая змена дзейнасці — вось важнейшы фактар захавання добрага здароўя. На працягу рабочага дня трэба мяняць віды дзейнасці. Цэлы дзень правялі за рабочым сталом? Знайдзіце магчымасць парухацца. Нарэшце, памыйце бялізну замест жонкі. Звадзіце дзяцей ці ўнукаў на прагулку. Набярыцеся смеласці, апраніце спартыўны касцюм і зрабіце прабежку...

З узростам мы павінны ўсё больш і больш набліжацца да прыроды. І не шукаць узбуджальных прыгод, а імкнуцца да спакою і міру. Ніколі не саромейцеся проста сесці ці легчы на некалькі хвілін, расслабіцца. Жменя лекаў не дасць вам заспакаення, расслаблення.

Вернемся да таго, з чаго пачыналі, — да перaяданняў. Вялікі Паўлаў гаварыў: «Жыццё — гэта адны абмежаванні!» Дарагія жанчыны, жывучы па гэтаму прынцыпу, вы захаваеце сябе і сваіх блізкіх. Удачы вам.

**Ганна СНЕГІР, урач.**

## Post Factum

### Гэты дзень у гісторыі

***21 снежня 1639 года*** нарадзіўся вядомы французскі драматург, прадстаўнік класіцызму Жан Расін. Проціборства страсцей у чалавечай душы — асноўны матыў яго трагедый «Брытанік», «Бераніка», «Федра».

У гэты дзень ***у 1796 годзе*** нарадзіўся польскі паэт-рамантык, удзельнік вызваленчага руху на Беларусі Томаш Зан.

***21 снежня 1833 года*** нарадзіўся Васіль Рыгоравіч Пяроў, рускі жывапісец. Ягоныя жанравыя карціны былі прысвечаны жыццю простага чалавека: «Сельскі хрэсны ход на Вялікдзень», «Тройка» і інш., а таксама псіхалагічныя партрэты А. Астроўскага, Ф. Дастаеўскага.

***21 снежня 1837 года*** з'явіўся першы датаваны спіс парадыйна-сатырычнай паэмы «Энеіда навыварат». Даследчыкі лічаць, што яна належыць пяру актыўнага ўдзельніка вайны 1812 года В. Равінскага. Парадзіруе паэму «Энеіда» старажытнарымскага паэта Вергілія.

Па афіцыяльных звестках, ***21 снежня 1879 года*** нарадзіўся Сталін.

У гэты дзень ***у 1896 годзе*** нарадзіўся вядомы савецкі военачальнік, Маршал Савецкага Саюза Канстанцін Ракасоўскі. У вайну камандаваў войскамі 2-га Беларускага фронту, камандаваў Парадам Перамогі 24 чэрвеня 1945 года на Краснай плошчы.

У гэты дзень ***у 1900 годзе*** нарадзіўся Усевалад Вішнеўскі, рускі савецкі пісьменнік, аўтар п'ес «Першая конная», «Аптымістычная трагедыя».

У гэты дзень ***у 1917 годзе*** нарадзіўся Генрых Бёль, нямецкі пісьменнік, майстар кароткага апавядання.

***21 снежня 1934 года*** нарадзіўся вядомы беларускі пісьменнік Іван Чыгрынаў, аўтар раманаў «Плач перапёлкі», «Апраўданне крыві».

***21 снежня 1993 года*** памёр Іван Сямёнавіч Казлоўскі, савецкі спявак (лірычны тэнар), народны артыст СССР, саліст Вялікага тэатра.

### Цікава

***У хуткім часе, напэўна, самалёт стане самым бяспечным відам транспарту. Прынамсі, многія фірмы ўшчыльную працуюць над гэтым.***

Амерыканская кампанія «Серрас-Дызайн» пачынае выпуск самалёта з унікальнай сістэмай бяспекі. У выпадку псавання матора ці іншай сур'ёзнай паломкі ў паветры пілот націскае кнопку, у выніку запускаецца маленькая парахавая ракета, якая выцягвае за сабой вялікі парашут. Пацярпеўшы аварыю самалёт дасягне зямлі са скорасцю каля 10 метраў у секунду, што раўназначна скачку з вышыні чатырох метраў. Машына пры гэтым можа моцна пацярпець, але людзі, якія знаходзяцца ў кабіне і салоне самалёта, маюць шанцы выйсці з аварыі цэлымі.

Трэба сказаць, што над падобнымі праектамі плаўнага спуску самалёта ці яго пасажырскага салона з дапамогай вялікага парашута людзі працуюць з часу вынаходніцтва выратавальнага парасоніка, але да гэтага часу яны былі рэалізаваны толькі на лёгкіх аднамесных самалётах.

### Дзесьці на белым свеце

Амерыканец Мейнард Нілі, безразважлівы смяльчак, які перад тэлекамерамі чысціў зубы галоднаму кракадзілу, хадзіў з завязанымі вачыма па канату над бурлівым жэрлам вулкана, ездзіў верхам на спіне белай акулы, неаднаразова перабягаў скорасныя шырокія аўтастрады, лавіруючы сярод транспарту, нядаўна быў вымушаны спыніць свае гульні са смерцю, таму што атрымаў перелом пазваночніка, паслізнуўшыся па банананавай лупіне на ганку ўласнага дома. Вось ужо сапраўды, ведаць бы, дзе ўпадзеш.

### Іх мараль...

***Адзін баварскі камерсант прыдумаў новы спосаб барацьбы з крадзяжамі ва універсамах.***

Цяпер пры ўваходзе і выхадзе з яго магазінаў пакупнікі ўзважваюцца на спецыяльных электронных вагах, і, калі розніца перавышае 20 грамаў, у пакупніка ветліва пытаюцца, ці не забыўся ён часам дастаць якую-небудзь пакупку з кішэні.

### А яшчэ быў выпадак

На камзоле Ламаносава прарваліся локці. Адзін прыдворны франт на прыёме з гэтай нагоды заўважыў:

— Вучонасць выглядае адтуль?

— Зусім не, васпан! — адрэагаваў на гэта адразу ж Ламаносаў. — Глупства заглядвае туды.

### Анекдот

*Пакупнік уваходзіць у магазін:*

*— Мне патрэбны маленькія свечкі для юбілейнага пірага ў гонар маёй жонкі, — звяртаецца ён да прадаўца.*

*— Колькі штук?*

*— Трыццаць, як звычайна.*



ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*

*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Брэсце — 33-640, Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98. ФАКС: 32-04-52, 68-28-77.*

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.

Адказнасць за змест рэкламы нясуць рэкламадаўцы.

Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 94665. Індэкс 63850.
Зак. № 7989.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12